

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 14 снежня 1990 г. № 50 (3564) ● Цана 10 кап.

## ЧАС АПТЫМІЗМУ МІНУЎ?

**Як мы паведамілі, 1 снежня ў Мінску адбыўся рэспубліканскі форум інтэлігенцыі з такім парадкам дня: «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі». У «ЛіМе» за 7.12. г. г. быў апублікаваны зварот удзельнікаў сустрэчы да народных дэпутатаў і ўсіх грамадзян рэспублікі. Сёння ж публікуем нататкі з форуму нашага спецыяльнага карэспандэнта.**

У другой палове дня вялікая зала Дома літаратара ўяўляла сабой даволі сумнае відовішча. У ёй і на пачатку сустрэчы хапала свабодных месцаў, цяпер жа пуставала ці не паўзалы. На гэта звярнуў увагу прысутных старшыня камісіі па культуры Мінсавета **І. Чарняўскі.** Такое ўражанне, заўважыў ён у сваім выступленні, што мы пераконваем — каторы ўжо раз — саміх сябе ў важнасці культуры, захавання яе помнікаў і здабыткаў.

Якім будзе плён нашай канферэнцыі? — задаваўся пытаннем дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР **М. Біч.** У нас ёсць, па словах гісторыка, дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, закон аб мовах, праект закона аб культуры. Трэба пераходзіць ад слоў аб важнасці культуры да справы. У гэтай сувязі ён выказаў крытычныя заўвагі ў адрас Міністэрства народнай адукацыі рэспублікі. Даклад аб тым, як рэалізуецца закон аб мовах у школах і ВНУ Беларусі, з якім выступіла намеснік міністра народнай адукацыі **Л. Сухнат,** выклікаў крытыку не толькі з боку спецыялістаў-вучоных, але і настаўнікаў-практыкаў **(А. Белакоз).**

Наогул, ствгаралася ўражанне, што ўдзельнікі форуму інтэлігенцыі чакалі ад яго большага. Сапраўды, задумвалася падзея значная і маштабная— да ўдзелу ў ім было запрошана кіраўніцтва ўсіх творчых саюзаў рэспублікі, Беларускага фонду культуры, гуманітарных інстытутаў. На форуме ў першай палове дня прысутнічаў і нават паспрабаваў адказаць на некаторыя пытанні намеснік старшыні Вярхоўнага Савета БССР **В. Шаладонаў.** Былі тут і народныя дэпутаты розных рангаў, дзеячы культуры, святары... Але ж... Безумоўна, ад саміх удзельнікаў найперш залежала, каб форум прайшоў канструктыўна. Колькі разоў выказвалася ідэя такой свабоднай, незафармалізаванай сустрэчы дзеячаў розных творчых саюзаў. (Пра гэта казаў ва ўступным слове народны дэпутат БССР, старшыня Рады ТБМ **Н. Гілевіч).** І вось яна (хай не зусім у той форме, якая ўяўлялася) адбылася. Наколькі ж плённай яна стала? Мы пачулі выступленні, прасякнутыя агульнай трывогай і... разгубленасцю. Толькі ці не замала гэтага пачуцця для канструктыўнай дзейнасці?

Старшыня рады Саюза пісьменнікаў Беларусі **В. Зуёнак** заклікаў інтэлігенцыю рабіць канкрэтную справу, а не высвятляць адносіны: хто «чысты», а хто «нячысты». Патрэбна кансалідацыя ўсіх творчых сіл у рэспубліцы, асабліва ва ўмовах, калі творчым арганізацыям можа пагражаць фінансавае прыдушэнне. Зараз, як ніколі, патрэбна дзяржаўная падтрымка культуры.

Лёс культуры залежыць ад лёсу яе творцаў, — гаварыў старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР **Г. Буралкін.** Сёння ж мастакі аказаліся бездапаможнымі перад навалай камерцыі і прыватызацыі.

У не менш драматычным становішчы апынуліся і мастакі-канструктары. Такую думку выказаў старшыня праўлення Саюза дызайнераў БССР **А. Длатоўскі.** Галоўны лозунг дня ў прамысловасці сёння: «не да эстэтыкі!» А заўтра? Будзем выпісваць праекты і спецыялістаў па дызайне з-за мяжы? Мы страцілі пачуццё гонару за сваю працу. Дызайн павінен стаць часткай праграмы развіцця культуры на Беларусі.

Старшыня яўрэйскага культурнага таварыства мастак **М. Данцыг** выказаў здзіўленне тым, што на канферэнцыю не прыйшлі адказныя работнікі Міністэрства культуры БССР. Калі на мастацтва выдзяляюцца мізэрныя сродкі, калі паранейшаму пануе прынцып ураўнілаўкі, з гэтага, на яго погляд, нічога і не атрымаецца. Сумны факт, але ў сталіцы Беларусі дагэтуль няма музея нацыянальнага мастацтва!

На думку кампазітара **В. Война,** развіццё культуры — і ў прыватнасці, музычнай — перашкаджае дзяржаўная манаполія, а таксама ідэалагізацыя мастацтва, якая вялася на працягу многіх дзесяцігоддзяў. У музычнай сферы існуе манаполія на канцэртную дзейнасць, грамзапіс і г. д. Кампазітар паўтарыў вядомую думку пра тое, што неабходна асацыяцыя творчых саюзаў рэспублікі.

У часы катаклізмаў адзінства паміж майстрамі культуры патрэбна як ніколі, — у гэтым перакананы старшыня праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР **В. Нікіфараў.** Ён выказаў сваё разуменне дэпалітызацыі культуры, якая павінна заключацца ў самаразвіцці і свабодзе мастацтва. Празмерная палітызацыя выключае мастака з культурнага жыцця. (Пра гэта, толькі ў іншай форме, гаварыў, дарэчы, і В. Зуёнак). А

**(Працяг на стар. 4).**

## З'ЕЗД ДАРУЧАЕ...

### КПБ і культура: мэты і прынцыпы

Напярэдадні XXXI з'езда КПБ у друку было змешчана нямала заяў і зваротаў, аўтары якіх — дзеячы літаратуры і мастацтва, работнікі культуры — заклікалі дэлегатаў партыйнага форуму звярнуць самую пільную ўвагу на праблемы духоўнага і нацыянальнага адраджэння рэспублікі.

Днямі апублікаваны дакументы з'езда. Сярод іх — рэзалюцыя «Аб палітыцы КПБ у галіне адукацыі, навукі і культуры». У ёй вызначаны галоўныя мэты і прынцыпы гэтай палітыкі і абвешчана, што «пытанні інтэлектуальнага і духоўнага жыцця грамадства павінны выйсці на пярэдні план у дзейнасці партыі».

З некаторымі палажэннямі рэзалюцыі, у прыватнасці, яе прэамбулы можна спрачацца. Напрыклад, калі з'езд **кіруючай,** па сутнасці, партыі ўпікае **дзяржаву** за «недаацэнку» праблем развіцця інтэлектуальнага патэнцыялу, ролі адукацыі, навукі і культуры. Хацелася б большай самакрытычнасці... Не пераканаўчай здаецца спроба ў нашых умовах злучыць лозунгі дэпалітызацыі і дэпартызацыі сферы адукацыі — з магчымай забаронай на прафесію па палітычных поглядах. Усё ткі гэта розныя рэчы. Досыць архаічна ўспрымаецца тэзіс аб неабходнасці ўзмацнення «палітыка-выхаваўчай работы» сярод інтэлігенцыі. Нас так доўга выхоўвалі...

**Але звернемся да канструктыўнай часткі дакумента. Тут шмат слушнага, вартага ўвагі. Рэзалюцыя ставіць пытанне аб распрацоўцы і ажыццяўленні канцэпцыі нацыянальнай школы, якая ўлічвае гістарычныя і культурныя традыцыі, духоўна-маральны вопыт народа Беларусі. У якасці першаступеннага вылучаны клопат аб захаванні, развіцці і ўзбагачэнні культуры народа Беларусі, вяртанні спадчыны, адраджэнні нацыянальных традыцый, звычаяў, абрадаў; аб выхаванні гістарычнай памяці; аб павазе самабытнасці і раўнапраўя культур усіх нацыянальнасцей, якія пражываюць у Беларусі. КПБ выступае за заканадаўчае забеспячэнне гарантый правоў асобы на творчасць, на свабоду творчасці, падтрымку талентаў, гарантаванае дзяржаўнае забеспячэнне стабільнага развіцця культуры ва ўмовах рынкавых адносін.**

З'езд даручыў новаму складу ЦК КПБ стварыць камісію па адукацыі, навуцы і культуры, правесці пленум па пытаннях нацыянальна-культурнай палітыкі; садзейнічаць першачарговаму прыняццю Вярхоўным Саветам БССР адпаведных заканадаўчых актаў; адстойваць прапановы аб павышэнні зарплаты настаўнікам, творчым работнікам устаноў культуры і мастацтва да ўзроўню сярэдняй у народнай гаспадарцы, а таксама аб давядзенні выдаткаў на развіццё адукацыі сама меней да 10 працэнтаў нацыянальнага даходу, мастацтва і культуры — да трох працэнтаў. Прызнана, сярод іншага, неабходнасць распрацоўкі дакумента, які вызначыць ролю і задачы партыйных камітэтаў і арганізацый па выкананні Закона «Аб мовах у Беларускай ССР».

Лепш пазней, чым ніколі?..

**ЛІМАВЕЦ.**



Марозным ранкам.

Фотаэцюд А. КЛЕШЧУКА.

**XXXI з'езд КПБ, які нядаўна адбыўся, выклікаў — і ходам сваім, і сваімі вынікамі — самыя розныя ацэнкі. Рэдакцыя вырашыла яшчэ раз звярнуцца да гэтай палітычнай падзеі. Сёння думкамі аб партыйным форуме дзеляцца пісьменнік Г. Далідовіч і супрацоўнік АН БССР Ю. Дракахруст.**

# Дык каму ж служыць Кампартыя Беларусі?

менш затушоўвалася,—гэта нападкі на Цэнтр, на былое і новае Палітбюро ЦК КПСС за тое, што тыя, на думку аўтараў нападак, не рэагуюць на развал партыі, сацыялізму, СССР, што патураюць розным экстрэмісцкім, дэструктыўным сілам і што не прыслухоўваліся і не прыслухоўваюцца да мудрых галасоў з Мінска. З усяго гэтага міжволі вынікае, быццам цяпер толькі тут, у нас, самая верная марксісцка-ленінская партыя, што стаіць на варце сацыялістычных святынь, СССР як адзінай магутнай дзяржавы, клапоціцца пра ўвесь народ. Часамі ў таго-сяго з прамоўцаў выразна гучала ў падтэксце: раней, калі мы, камуністы, цвёрдай рукой трымалі ўладу, усё было добра, а цяпер, пры перабудове, калі нас пазбавілі манаполіі, усё дрэнна, няма таго і гэтага, а да ўсяго да ўлады рвуцца розныя БНФ, нефармалы...

Зрэшты тое, што дэлегаты заклапочаныя лёсам партыі, сацыялізму, СССР, не так ужо і блага. Але засмучае іншае. Здаецца, многія з 529 беларусаў, 136 рускіх, 31 украінца, 15 палякаў і 6 прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, што былі на з'ездзе, нібы не зусім ведаюць, дзе, на чыёй зямлі, сярод каго яны жывуць непасрэдна (справа не толькі ў тым, што некаторыя ў сваіх прамовах цытавалі і Амара Хаяма, і Вальтэра, але толькі не Скарыну ці Купалу). Мякка кажучы, незразумела, чаму ў час, калі трэба абнавіць сацыялістычныя ідэі, напоўніць іх новым, дэмакратычным зместам, калі шырокая грамадскасць выказалася за паўнацэнны эканамічны і культурны суверэнітэт Беларусі, дэлегаты чамусьці ўхіліліся ад прыняцця Статута КПБ. Значыць, многія з іх, асабліва з вышэйшых партыйных, дзяржаўных, гаспадарчых упраўленчых паверхаў, сапраўды цвёрда трымаюцца за былое. Як вядома, у свой час Мяснікоў, Кнорын, Ландар і іншыя, якія па волі лёсу былі закінутыя да нас, не прызнавалі ніякай Беларусі, права беларусаў «людзьмі звацца», яны зрабілі нямала, каб дапамагчы Сталіну і яго памагатым звесці суверэнітэт рэспублікі да ўзроўню паслухмянай і пакорлівай нарыхтоўчай канторы ў звыштаталітарнай дзяржаве на чале з дыктатарам, а правы КПБ — да праваў радавога абкома Паўночна-Заходняга краю СССР.

Маюць рацыю таварышы Шушкевіч, Кебіч, Вайтовіч: нельга цяпер прадаўжаць былую заганную палітыку ў галіне нацыянальнага пытання, дамагацца ўсё ж зліць мовы ў адну (зліваюцца хутчэй розумы, але не ў лепшы бок, а па-другое, ініцыятарам зліцця рана-позна прыйдзецца вывучаць кітайскую мову, паколькі на ёй болей за ўсё гавораць на свеце), нельга цяпер ігнараваць шматлікія звароты працоўных, інтэлігенцыі, творчых саюзаў з заклікамі павысіць увагу да культуры, зрабіць усё, каб вярнуць да жыцця зганьбаваную беларускую мову.

У час ранейшых гутарак з некаторымі партыйнымі кіраўнікамі райкомаўскага і абкомаўскага ўзроўню можна было пачуць: так, першы сакратар ЦК КПБ не зусім гібкі, чалавек старой закваскі, але ён за Леніна, за Кастрычнік 1917-га, за сацыялізм, за моцны СССР і да ўсяго добры спецыяліст сельскай гаспадаркі, у прыватнасці па свінагадоўчых комплексах, і яго немалая заслуга ў тым, што рэспубліка дае краіне нямала мяса, малака ды хлеба.

Што да лідэра рэспублікі, шматмільённага старажытнага народа, то, безумоўна, мала быць спецыялістам у нейкай адной галіне, па-брыгадзірску дбаць пра план, вал любой цаной. Лідэр ёсць лідэр. Ён абавязаны мець вялікія веды і высокую культуру, жыць самому і накіроўваць усіх жыць не толькі адным днём, страўнікавымі інтарэсамі, ён павінен заклікаць ушаноўваць слаўнае мінулае і належна, нічога вартага не глумячы, клапаціцца пра будучыню. Адным словам, ён мусіць быць асобаю і фарміраваць воблік усёй нацыі. На вялікі жаль, многія нашы лідэры дзейнічалі наадварот — разбуралі гістарычную самабытную народную супольнасць, пераўтвараючы народ у бязлікіх паслухмяных насельнікаў, якія дзеля капейкі не берaглі б ні зямлі, ні рэчкі, ні дрэва, а гэта значыць ні сябе, ні сваіх дзяцей і ўнукаў, сваёй працай не толькі ствараючы, але і разбураючы. Што да Кастрычніка 1917-га, сацыялізму, асабіста я лічу: яны — заканамерная з'ява, яны павінны былі быць апрабаваны чалавецтвам. Уласна дзякуючы найперш ім (як і Леніну, Расіі, СССР) беларусы змаглі заявіць пра сябе як пра народ, дабіцца права на прызнанне сваёй дзяржаўнасці і права на самастойнае эканамічнае і культурнае развіццё. Поспехі Савецкай Беларусі значныя, але яны, бясспрэчна, былі б нашмат большыя, каб сталінізм не падарваў іх. Маем на ўвазе знявечаныя ім нашы вёскі, загубленых у лагерах сотні тысяч, а то і мільёны нашых руплівых гаспадароў, вучоных, дзеячаў літаратуры і мастацтва, вядомых партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў — фактычна цвет беларускай нацыі. З ім нам было б лягчэй і пасля вайны, і цяпер, у чарнобыльскую бяду. Зразумела, цяперашняя генерацыя кіраўнікоў партыі не мае віны за насілле, тэрор, а то і за генацыд над народамі, але не мае права не бачыць іх, не асуджаць, а ўсё тое, што вытваралі людзі з партыйнымі білетамі, лічыць непагрэшным і святым. Нават больш — трэба не чапляцца, а перабудоўваць сталінскую каманднa-адміністрацыйную сістэму, ладзіць яе не на чалавечай крыві, пад наганам, а па іншых, гуманных прынцыпах.

Канечне, перабудоўвацца і перабудоўваць — нялёгка. Трэба ведаць, што пакінуць, а ад чаго адмовіцца і што прыладзіць новае. Канечне, гэта балючы працэс, які закранае многіх, у тым ліку тых, хто шчыра, слепа альбо з кар'ерысцкіх намераў усталёўваў сталінскі рэжым, хто па малой адукаванасці ці невуцтве нічога іншага, лепшага не ўяўляе і не жадае ўяўляць. Але жыццё змушае дзейнічаць і дзейнічаць у абнаўляльным накірунку.

Калі сёння не закінутыя, а народжаныя тут, у нас (у асноўным ва ўсходніх абласцях), камуністы-кіраўнікі заяўляюць пра сацыялістычны выбар і камуністычную перспектыву, пра захаванне цэласнага СССР, то пры гэтым трэба добра тлумачыць гэтыя арыенціры. Нават больш — навукова распрацоўваць курс. Тыя, сталінскія сацыялізм і СССР, падтрымаюць некаторыя ветэраны, але большасць, асабліва моладзь, хоча ўжо іншай, болей плённай і гуманнай мадэлі. Трэба, магчыма, цяпер не столькі абурацца, кляймiць, клікаць да распраў, новага тэрору, а вывучаць, чаму, за што крытыкуюць Леніна, Кастрычнік, сталінізм, чаму многія паварочваюць шыі да ЗША, Швецыі, ФРГ, Японіі, Сінгапура, Галандыі, Францыі, Тайваня, Фінляндыі, Іспаніі, Паўднёвай Карэі і іншых, дзе не было Леніна, Вялікага Кастрычніка, дзе ў некаторых былі таксама жорсткія дыктатары і таталітарныя рэжымы, але дзе цяпер эканамічны росквіт, дастатак, дэмакратыя і сацыяльна-прававая захаванасць чалавека. Як нам дабіцца гэтага? Ды сродкамі сацыялізму?

Адпаведна, мала змушаць любіць Леніна, Вялікі Кастрычнік, сацыялізм, мала працягваць выхоўваць сляпую веру і фанатызм, трэба ўжо штосьці большае — тое, на што здольны іншы, абноўлены сацыялізм. А гэта значыць, што трэба жадаць гэтага абнаўлення, трэба добра паразважыць: а што ж, дарэчы, меў на ўвазе наш правадыр, Ленін, калі перад смерцю заклікаў памяняць карэнным чынам наш погляд на сацыялізм?

На жаль, ідэалагічная служба КПБ за пяць гадоў перабудовы не пажадала (не змагла) належным чынам даследаваць, распрацаваць той ленінскі тэзіс, дастасаваць яго да ўмоў рэспублікі, заўзята чаплялася за сталінска-брэжнеўскія стэрэатыпы і пастулаты «развітога» (упадкавага) сацыялізму. На жаль, ні адзін з буйных партыйных важакоў рэспублікі таксама не асмеліўся (не змог) выступіць з пэўнымі новымі эканамічнымі, палітычнымі і культурнымі канцэпцыямі ў друку, асобнай кнігай, задавольваючыся быць брыгадзірам даручанага ўчастка ды зрэдку бурчэць на тых, хто замінае спакойнаму жыццю.

Магчыма, тут адыграла сваю ролю тое, што ў свой час у партыі была ўстаноўка на тэхнакратычныя кадры, найперш на гаспадарчую работу, і некаторыя натуральна проста не здольныя да самастойнай навуковай, творчай дзейнасці. Магчыма, некаторыя задаволіліся вялікай уладай, сваім становішчам, прывілеямі, а ў новых умовах разгубіліся, не могучы знайсці мовы з рознымі слаямі ў грамадстве і не могучы перамагчы ў адкрытых дыскусіях.

Якая не вялікая і рэзкая крытыка КПСС, КПБ, хочацца верыць, што камуністы яшчэ не спісаныя ў архіў, а іхні вопыт — не проста суровы і няўдалы эксперымент над народамі дзеля сваёй звышрэвалюцыйнай ідэі. Не. Камуністаў шмат, за імі багатая гісторыя, валоданне механізмам і рычагамі ўлады, метады ўздзеяння на розум і душу мас, уменне кансалідаваць людзей на самыя цяжкія справы. Да ўсяго цяпер яшчэ ў партыі нямала таго, каго можна назваць патэнцыяльнымі носьбітамі народнага волевыяўлення. Яны дагэтуль не маглі як след развівацца, іх стрымлівалі зададзенасць, аўтарытарызм, сляпое падпарадкаванне нізоў вярхам, але пры ўмове сапраўднага абнаўлення, дэмакратызацыі могуць праявіць свае магчымасці, ажывіць, павесці за сабой лепшае ў народзе і стаць народнай сілай.

Жыццё пакажа, што і як будзе далей. Паколькі змест, дух у кіруючых колах КПБ у асноўным яшчэ былы, часоў таталітарнай, каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, каставы і скрытны (амаль любая паперка тут звышсакрэтная), паколькі гэтыя колы мала абноўленыя і асабліва не праяўляюць ініцыятывы да змен, то нямала будзе значыць ад таго, як павядуць сябе лідэры — новы першы сакратар і члены Бюро ЦК КПБ. Калі ў іхняй дзейнасці з'явяцца новыя накірункі, крокі ў жыццё, да народа, да інтэлігенцыі, то, безумоўна, пачне пераадольвацца адчужэнне, разрыў паміж партыяй і масамі, паміж партыйнымі важакамі і радавымі камуністамі. Ну, а нам, творцам, хацелася б, каб нарэшце мы адчулі сапраўдную падтрымку ў справе належнага адраджэння беларускай нацыі, каб і на словах, і на справе бачыць, адчуваць, з кім, за каго і за што Кампартыя — Кампартыя, што прадстаўляла б рэспубліку, народ, а не адасобленую дэнацыяналізаваную эліту, адгароджаную ад усіх высокім плотам, міліцэйскімі пастамі, з прывілеямі і набыткамі, да якіх усім астатнім вельмі далёка, як да светлага камуністычнага заўтра, таго, што для сябе і сваіх верных слуг увёў яшчэ Сталін.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

# ПОЎНЫ НАЗАД?

выключэння камуністычныя краіны. Гэтая рэвалюцыя — не вынік змовы, а вынік глабальнага эканамічнага, палітычнага і ідэалагічнага крызісу сусветнага камунізму. Эканамічная прырода гэтага крызісу ў тым, што самаразвіццё сучасных вытворчых сіл разбурае і дэзарганізуе гаспадарку. Ужо ў прынцыпе немагчыма планаваць мільёны найменняў вырабаў, балансаваць складаныя ўзаемасувязі. Эканоміка сёння не можа функцыяніраваць без свабоднага руху капіталаў, тавараў, інфармацыі і, значыць, ва ўмовах колішніх «камуністычных» рэжымаў яна няздольная функцыяніраваць увогуле. Цяперашні крызіс «народнай гаспадаркі» — непазбежны вынік асноўных прынцыпаў яе арганізацыі. І справа тут не ў кепскіх, некампетэнтных кіраўніках — проста гэтая эканамічная сістэма ўжо адпрацавала свой рэсурс.

Ідэалагічныя і палітычныя прычыны крызісу ў тым, што камунізм... пабудаваны ўжо. Той самы, пра які марылі Маркс і Ленін. Маецца на ўвазе — пабудаваны настолькі, наколькі ўвогуле разумовая схема можа быць увасоблена ў жыццё. Ці не сведчыць пабудаванае аб тым, што памылкі былі закладзены ў самім праекце, у асноўных палажэннях марксізму? Прымусова ўсталяваная роўнасць, дзяржаўная ўласнасць на сродкі вытворчасці несумяшчальныя са свабодай і росквітам. Такім чынам, шлях да камунізму пройдзены да канца. Цяпер пачынаецца доўгая дарога назад. Да жыцця.

**Я**К ЖА АСЭНСОЎВАЕ сітуацыю, якая склалася, Кампартыя Беларусі?

Зусім неадэкватна. Камуністы не разумеюць іманентнай прыроды працэсаў, што адбываюцца, іх тэндэнцыі. Ім здаецца, што ва ўсім вінаватыя кепскія члены ЦК КПСС, журналісты, «купка экстрэмістаў з БНФ» і г. д. Дастаткова прачытаць выступленні дэлегатаў з'езда В. Маласая, Н. Зінавенкі, У. Грыгор'ева, каб пераканацца менавіта ў такім узроўні асэнсавання рэчаіснасці. На цэлыя дзесяцігоддзі гісторыя перапынілася, грамадства было (ці здавалася) цалкам кіруемым. Але працэсы, якія адбываліся пад прыгнётам, дасягнулі крытычнай адзнакі. Грамадства зрушыла з мёртвай кропкі, увабралася ў сілу палітыка — як сутыкненне інтарэсаў розных сацыяльных груп. А Сістэме па-ранейшаму здаецца, што дастаткова выключыць з партыі «адступнікаў», паставіць на месца «экстрэмістаў» і ўсё вернецца на кругі свая.

Камуністы (дэлегаты з'езда) радуюцца зніжэнню папулярнасці БНФ, і зусім дарэмна. Па-першае, гэта тлумачыцца пераразмеркаваннем сімпатый ад БНФ да іншых дэмакратычных рухаў, такім чынам, у цэлым колькасць людзей, якія адвяргаюць камунізм, расце. Па-другое, радасць гэтая неабачлівая, бо заўсёды лепш мець справу з цывілізаванай апазіцыяй.

Сталасцю і дасканаласцю (у сэнсе дасканаласці ў рэалізацыі сістэмных прынцыпаў) «беларускага камунізму» тлумачыцца і поўная адсутнасць у ім «ліберальнай», хоць бы колькі дэмакратычнай плыні. Дэмакратычныя тэндэнцыі старанна выкараняюцца на самых ніжніх узроўнях партыйнай піраміды. Зрэшты, гэта вынік значна больш шырокай устаноўкі. Трэба заўважыць, што ў рамках беларускай кампартыі маюцца ў наяўнасці два праекты, дзве прапановы наконт таго, як захаваць сваю ролю і сваю ўладу.

Адзін актыўна развіваецца групіроўкай В. Чыкіна, другога сакратара Мінскага ГК КПБ. Гэта — класічны сталінізм, адмаўленне нават тых нямногіх прыкмет цывілізаванасці, якія набыла кампартыя ў пасляста лінскі перыяд. У аснове гэтай ідэі ляжыць адкрытая стаўка на люмпена, на палітычную дэмагогію. Групіроўка Чыкіна арыентавана на Аб'яднаны фронт працоўных, на таварыства «Адзінства» Н. Андрэевай і іншыя арганізацыі гэтага кшталту. Трэба, аднак, заначыць, што ідэя гэтая не пазбаўлена будучыні. У нашай краіне збольшага ўдалося стварыць новага чалавека — Homo sovieticus'а,— з прагнай зайздрасцю да суседскага дабрабыту, схільнага да статкавых рэакцый і ідэалагічнага гіпнозу. «Гома савецікус» можа быць добрай сацыяльнай базай для Чыкіна і яго аднадумцаў.

(Працяг на стар. 4).

# Поўны назад?

(Пачатак на стар. 2—3).

Другая ідэя звязана з імем П. Краўчанкі, міністра замежных спраў БССР. Яна грунтуецца на двух не пазбаўленых слушнасці меркаваннях. Папершае, знаходжанне Беларусі ў складзе СССР мае для «беларускага камунізму» як свае плюсы, так і свае мінусы. Да ліку адмоўных бакоў адносіцца тое, што кіраўніцтва КПСС усё ж схільнае да «заразы» свабоды і дэмакратыі, у той час як кіраўніцтва КПБ да яе імуннае. Таму кіраўніцтву КПБ даводзіцца часцяком рабіць ці дазваляць рабіць тое, што само па сабе яно пакуль у стане не рабіць і не дазваляць. З іншага боку, ідэйнай асновай Беларускага народнага фронту — апазіцыі КПБ — з'яўляецца нацыянальная ідэалогія. Нягледзячы на антыкамунізм БНФ, нацыянальная ідэалогія сама па сабе не з'яўляецца антаганістам камуністычнай, не выключаны і нават магчымы іх сімбіёз. Гэтыя два меркаванні наводзяць на думку пра магчымасць «албанізацыі» Беларусі. Гаворка ідзе аб тым, каб зрабіць стаўку на нацыянал-камунізм, адмежаваць Беларусь ад суседніх рэспублік, дзе ўжо ярка гарыць паходня свабоды, і такім чынам перасядзець да лепшых часоў. Рэалізацыя такой палітыкі магла б мець яшчэ адзін вынік: як мінімум, разгубленасць у радах БНФ.

Безумоўна, у кіраўніцтва беларускіх камуністаў ёсць яшчэ шмат «задум», але мы спыніліся, бадай, на самых яркіх.

Аднак XXXI з'езд КПБ не прыняў ніякай ідэі, ніякай рацыянальнай палітыкі. Яно і зразумела. Чыкінскі «шаблязубы камунізм» рэжа слых культурнаму чалавеку, дый, зрэшты, не надта блізкі сытым і спакойным партсакратарам, якія вельмі баяцца палітызацыі люмпена. Паўтарэнне 17-га і 37-га гадоў не ўсміхаецца самім камуністам: у імя чаго б ні здзяйсняліся рэпрэсіі — гэта кій з двума канцамі. Нацыянальны варыянт мог бы засмуціць госця з Літвы, брата па розуму і Палітбюро — М. Буракявічуса. Больш таго, гуляць у гэтыя нацыянальныя гульні, вучыць гэтую мову, сварыцца з Масквой (па-ранейшаму крыніцай указанняў, павышэнняў і выгод) — таксама не для тутэйшых кіруючых і накіроўваючых таварышаў. Лепей ужо бурклівая апазіцыя Гарбачову, чым рызыка правядзення ўласнай палітыкі.

Справа ў тым, што КПБ — толькі з вялікай нацяжкай можна назваць палітычнай партыяй. Хутчэй гэта сістэма ценевай улады, якая стаіць над грамадствам, кантралюе яго. Улада пры гэтым з'яўляецца не мэтай КПБ, а неад'емным атрыбутам яе існавання і функцыяніравання. Таму палітыка КПБ не мае патрэбы ў ідэях. Гэта і не палітыка ў строгім сэнсе слова, а спосаб кіравання. Самаразвіццё грамадства ўспрымаецца Сістэмай як уласная дысфункцыя, якую трэба выкараніць і вярнуць кіруемы аб'ект у зыходнае становішча. Ды, на вялікі жаль партакратыі, аб'ект ператвараецца ў суб'ект, які мае ўласныя мэты і не жадае надалей быць татальна накіроўваемым.

Бяда кампартыі ў тым, што яна, бадай, можа існаваць толькі ў двух станах: альбо як сістэма татальнай улады, альбо як нешматлікая секта фанатыкаў, якая не ўплывае на грамадскія працэсы. Нармальны стан уплывовай парламенцкай партыі для яе наўрад ці дасягальны, — надта ўжо вялікія яе грахі ў мінулым, надта ўжо прымітыўная для цывілізаванага грамадства яе ідэалогія. Таму кіраўніцтва КПБ спадзяецца на нейкую асаблівую камуністычную ментальнасць, на тое, што працэсы, якія ідуць ва Ўсходняй Еўропе, не закрануць Беларусь. Па ўсім відаць, гэта марныя спадзяванні.

Кіраўніцтва КПБ кіруецца не ідэямі, а ідэалагічнымі інстынктамі. Таму яно выяўляе агрэсіўнасць у дачыненні да любых спроб змяніць Сістэму, нават калі гэтыя спробы ідуць у напрамку яе мадэрнізацыі. Да апошніх, бадай, нецярпімасць большая. З выступленняў У. Грыгор'ева, В. Сяменава, Я. Вайтовіча вынікае, што ледзь не галоўны іх вораг — гэта кіраўніцтва КПСС. Камуністычная Сістэма ў Беларусі знаходзіцца ў пастаянным стрэсе: адбываецца востры канфлікт інстынкту падпарадкавання Цэнтру і інстынкту самазахавання. Ваганні з прыняццем уласнага статута — тыповая рэакцыя на сутыкненні супярэчлівых імпульсаў.

На з'ездзе гучаў звыклы набор ідыялагем: «Хопіць балбатаць, трэба працаваць», «Трэба даць адпор экстрэмістам», «Наш народ прытрымліваецца сацыялістычнага выбару», «Ленін — святыня»... Рацыянальнага сэнсу гэтыя заклікanні, як правіла, не маюць: іх сэнс — стварэнне атмасферы адзінства, далучанасці камуністаў да вялікай Сістэмы. Разам з тым, усё гэтае не пазбаўлена пэўнай логікі.

Зусім невыпадкова і В. Сяменаў, і Я. Вайтовіч абурыліся фразай А. Якаўлева — «Дазволена ўсё, што не забаронена законам». І на самой справе, гэтая максіма — асноватворны прынцып прававой дзяржавы. Між тым, таталітарная дзяржава мае прынцыпова неправавы характар, бо мэтай сваёй абірае не абарону правоў і свабоду чалавека, а будаўніцтва і ўмацаванне рэжыму. Дзеля гэтага, вядома, фармальная прырода права не падыходзіць. Права толькі рэгулюе адносіны паміж суб'ектамі, але не вызначае змест гэтых адносін. Каб нармальна функцыяніравала Сістэма, неабходны інстытут ценевай партыйнай улады, інстытут па-за прававога кантролю і кіравання грамадствам. Нашы адэпты Сістэмы разумеюць, на чым грунтуецца іх улада, і горача адстойваюць гэтыя асновы.

Кампартыя Беларусі катэгарычна супраць матэрыяльнай асновы свабоды—супраць прыватнай уласнасці. (А. Малафееў: «...З'езд павінен выказацца супраць перадачы зямлі ў прыватную ўласнасць ...варта было б падтрымліваць прыярытэтнае развіццё яе (уласнасці. — **Ю. Д.**) калектыўных форм»). Гэта сведчыць пра тое, што для КПБ даражэй захаванне сваёй улады, чым дабрабыт народа. Дзяржаўная ўласнасць — апірышча Сістэмы. Нельга дапусціць, каб народ карміўся сам, неабходна выдаваць яму корм з рук мудрай партыі.

З'езд абраў, мне здаецца, курс «поўны назад». Падмарозіць Беларусь, замарудзіць ці падавіць грамадскія працэсы, учэпіста трымацца сваіх крэслаў і сваіх ідалаў. Спыніць гісторыю, вярнуцца назад, у «залаты век», калі народ дружна будаваў катлаван камунізму і любіў партыю.

Людзей шкада, у тым ліку і камуністаў...

**Юрый ДРАКАХРУСТ.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# КАБ НЕ БОЛЬШАЛА «БЕЛЫХ ПЛЯМ»

**Падаўленне духоўнай свабоды беларускага народа на працягу дзесяцігоддзяў таталітарнага рэжыму і абуджэнне свядомасці людзей з пачаткам перабудовы выклікалі ўзнікненне разнастайных грамадскіх аб'яднанняў: аматарскіх, культурных, палітычных. Разам з імі пачалі імкліва нараджацца незалежныя выданні — так званы самвыдат. Вядома, што ў цывілізаваным грамадстве ў поўнай меры забяспечваецца свабода друку, але адначасова ажыццяўляецца дзяржаўная рэгістрацыя ўсёй друкаванай прадукцыі незалежна ад таго, хто выдае і спосабу яе выдання. Гэта робіцца ў інтарэсах самога грамадства, якое адчувае патрэбу ў тым, каб пакінуць нашчадкам аб'ектыўную дакументальную аснову для вывучэння яго ўласнай гісторыі. Такім чынам, самвыдат як з'ява перастае існаваць.**

**У гісторыі Беларусі нямала так званых «белых плям». Яны ўзніклі таму, што шмат друкаваных помнікаў па розных аб'ектыўных (войны, пажары) і суб'ектыўных (мэтанакіраванае знішчэнне як неадпавядаючых афіцыйнай ідэалогіі) прычынах загінула.**

**І вось на нашых вачах складаецца сітуацыя, калі ўзнікаюць новыя «белыя плямы» дня сённяшняга, якія заўтра стане гісторыяй. Вось чаму нам патрэбен рэспубліканскі закон аб друку, які павінен стварыць юрыдычную базу для рэгістрацыі такіх выданняў. Гэта адначасова з'явіцца інфармацыяй аб выхадзе іх у свет і тым самым дасць магчымасць арганізаваць іх збор для захоўвання і выкарыстання. Адсутнасць такога закона (да яго прыняцця) у пэўнай ступені змог бы кампенсаваць Закон Беларускай ССР «Аб культуры ў БССР», дзе ў артыкуле 39 гаворыцца: «Усе прадпрыемствы, установы і арганізацыі, прыватныя асобы, ажыццяўляючыя выдавецкую дзейнасць, абавязаны перадаваць (перасылаць) у нацыянальную бібліятэку БССР бясплатны кантрольны экземпляр сваёй прадукцыі». Але ж гэта пакуль толькі праект і Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна як нацыянальная бібліятэка Беларусі прыкладае шмат намаганняў, каб выканаць адну са сваіх галоўных функцый — захаванне нацыянальнай памяці народа.**

**У гэтай справе няма дробязей, усё ўяўляе дакументальную каштоўнасць, можа быць крыніцай вывучэння грамадскіх рухаў, падзей, з'яў: перыядычныя выданні; асобныя мастацкія творы; публіцыстычныя матэрыялы, перадвыбарныя лістоўкі, праграмы, інфармацыйныя лісткі, аб'явы; рэзалюцыі і адозвы мітынгаў, дэманстрацый, сходаў; стэнаграмы і пратаколы сустрэч з кандыдатамі ў дэпутаты, дэпутатамі і інш. Вядзецца закупка такіх выданняў, збіранне іх за кошт асабістых кантактаў. Разам з тым нас вельмі турбуе, што значная колькасць такіх выданняў і машынапісных матэрыялаў у бібліятэку не трапляе. Таму звяртаемся да ўсіх, хто мае дачыненне да падрыхтоўкі, выдання, распаўсюджання самвыдатаўскіх матэрыялаў, ці проста валодае імі, з просьбай: дасылаць, прыносіць або хоць бы інфармаваць нас аб іх. Бібліятэка імя У. І. Леніна з удзячнасцю прыме любую дапамогу (не выключаецца і набыццё, асабліва калекцый), гарантуе іх пастаяннае захоўванне і свабоднае выкарыстоўванне чытачамі. У перспектыве плануецца выданне спецыяльных бібліяграфічных паказальнікаў, наладжванне выставак і адкрытых праглядаў такіх матэрыялаў.**

**Толькі з дапамогай шырокай грамадскасці рэспублікі мы зможам перашкодзіць узнікненню «белых плям» у сучаснай гісторыі Беларусі.**

**І. ПРЫЛІШЧ,**
**намеснік дырэктара Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.**

РЭПЛІКА

# ГРОШЫ НЕ ПАХНУЦЬ

**Рэлігія забараняе гандляваць у храме. А ў Доме культуры? На жаль, пра такія ўстановы ні ў Новым, ні ў Старым запаветах нічога не гаворыцца.**

**Трэба думаць, ідэя савецкага «храма культуры» церпіць няўдачу. Вось вам выпадак у Наваполацку. Мясцовыя «культуртрэгеры» дапамаглі мясцовым грамадзянам, якім ёсць што мяняць. Ну, сапраўды, навошта «лавіць дрыжыкі» на марозе і адчуваць сябе Шурай Балаганавым, руку якога схапілі ў чужой кішэні, калі можна заплаціць рубель і спакойна зайсці ў ДК нафтавікоў. І мяняцца з такімі ж, як ты, хоць да пасінення! Шыла на мыла ці мыла на шыла.**

**Такім чынам, усё геніяльнае — простае. Прызначаем плату, бяром яе і — называем усё гэта залай абмену прамтавараў і абутку. З пункту гледжання рыначнай эканомікі ўсё выдатна: у адзін з выхадных ДК сабраў за 6 гадзін работы 1600 рублёў. Выгадна. Ніякіх затрат. Адны прыбыткі. Аб маралі ў даным выпадку, відаць, лепш памаўчаць. Ці зняць шапку і сказаць: «Супакой, божа, яе душу».**

**Гандляваць ва ўсім свеце прынята ў крамах, на рынках, афіцыйных і неафіцыйных «барахолках», у супермаркетах, гандлёвых цэнтрах і інш. Неяк так склалася. А ў Доме КУЛЬТУРЫ трэба, так сказаць, пашыраць свой інтэлектуальны кругагляд. Вось і пашыраем...**

**Быў раней адзін бог — план. Перабудова вылучыла на гэту пасаду наступнага — рынак. Увага, таварышы! Молімся на рынак. Ісціна: грошы не пахнуць.**

**А. ШАЎЧЭНКА.**

# ЧАС АПТЫМІЗМУ МІНУЎ?

(Пачатак на стар. 1).

гэта азначае, што, апроч усяго іншага, нам пагражае культурны голад.

Гэтыя думкі кінарэжысёра, як мне падалося, не былі належным чынам ацэнены. На жаль, даволі часта канферэнцыя ператваралася ў мітынг, удзельнікі якога не чуюць адзін аднаго за частаколам фраз і лозунгаў.

На чым безумоўна сыходзіліся ўсе ўдзельнікі канферэнцыі — гэта на тым, што культура апынулася ў катастрафічным стане, а народ — у кроку ад этнічнага бяспамяцтва. Што мы робім, каб спыніць яго? Такое пытанне задаў вучоны-мовазнаўца **Л. Лыч.** На яго думку, трэба зняць паняцце «рэнтабельнасць» у дачыненні да нацыянальнага адраджэння, усе выдаткі на яго сёння абавязана ўзяць на сябе дзяржава.

Ад празмерных спадзяванняў на дзяржаву палічыў неабходным засцерагчы народны дэпутат БССР **П. Садоўскі.** На яго думку, мы сёння правай рукой павышаем зарплату настаўнікам і дзеячам культуры, а левай — адбіраем даходы ў прадпрыемстваў. А гэта ва ўмовах дэфіцыту бюджэту вядзе да яшчэ большага дысбалансу ў эканоміцы.

Аднак, на думку народнага дэпутата БССР **А. Трусава,** павышэнне зарплаты работнікам культуры — рэч абсалютна неабходная. Бо гэта не толькі матэрыяльная, але і маральная падтрымка людзям.

Старшыня татарскага культурнага таварыства «Аль кітаб» **Б. Шабановіч** расказаў на канферэнцыі аб гаротным лёсе мусульманскіх святыняў на Беларусі. Яго заклік аб дапамозе беларускім татарам у іх спробах аднавіць старажытную культуру знайшоў водгук ва ўдзельнікаў канферэнцыі. Таксама і просьба члена праўлення таварыства «Аль кітаб» **І. Меметава** падтрымаць крымскіх татараў у іх імкненні вярнуцца на зямлю продкаў, не засталася без увагі.

Праблемы рэлігіі і нацыянальных узаемаадносін на Беларусі ва ўсёй іх складанасці ў той або іншай форме закраналіся ў многіх выступленнях. Гаварылася, у прыватнасці, аб небяспецы паланізацыі на захадзе Беларусі, аб неабходнасці асцярожна ставіцца да перадачы вернікам гістарычных помнікаў, аб тым, што нельга агулам вырашаць рэлігійныя пытанні, наносячы страты музейнай справе.

З цікавасцю было выслухана выступленне біскупа **Т. Кандрусевіча,** прысвечанае праблемам перакладу на беларускую мову Святога Пісання і выдання на беларускай мове рэлігійнай літаратуры.

Побач з гэтым гучалі ў зале і адкрытыя палітычныя заявы. Так, упершыню была публічна абвешчана заява аб стварэнні беларускага сацыял-дэмакратычнага руху — ад імя ініцыятыўнай групы з гэтай заявай выступіў **А. Сідарэвіч.**

Са своеасаблівай палітычнай дэкларацыяй «Хто не супраць нас — той з намі!» выступіў старшыня аргкамітэта Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі **А. Емяльянаў.**

Свае погляды на апошнія падзеі і сітуацыю на Беларусі прадставілі на форуме і кіраўнікі БНФ «Адраджэнне» — **З. Пазняк, Ю. Хадыка, М. Ткачоў.**

**Старшыня сойма БНФ, народны дэпутат БССР З. Пазняк, у прыватнасці, прапанаваў свой аналіз сітуацыі ў рэспубліцы і магчымасці выйсця з яе. Час аптымізму, падкрэсліў лідэр фронту, мінуў. Патэнцыял нацыі за апошнія 70 год вычарпаны. Вёска абязлюдзела. Чалавек, пазбаўлены ўласнасці, не здольны на стварэнне, ён ператвараецца ў люмпена. Страчана і гарадская культура. Праз сучасную урбанізацыю адбываецца далейшая асіміляцыя народа, перш за ўсё яна закранае моладзь. Ідзе разбэшчванне моладзі. Разбураецца мараль, духоўнасць, вера ў Бога. Каб прадухіліць катастрофу, неабходна стварыць нацыянальныя інстытуты. А гэта — Дзяржава, Школа, Рэлігія.**

**А ў тым, што нацыянальнае адраджэнне сёння даводзіцца пачынаць ледзь не з нуля, ёсць, на думку З. Пазняка, немалая віна і сучаснай беларускай інтэлігенцыі. Трэба адраджаць грамадскую супольнасць. І зрабіць гэта можна толькі на падставе нацыянальнай кансалідацыі народа. БНФ, падкрэсліў яго лідэр, — за духоўнае адзінства нацыі, за парламенцкія метады барацьбы. Сітуацыя сёння крытычная. На жаль, партапарат не разумее гэтай крытычнасці. А рыначныя і палітычныя працэсы ідуць незалежна ад нашага жадання. Таму трэба неадкладна дзейнічаць, працаваць — у імя чалавека, у імя адзінства нацыі.**

**Інтэлігенцыя павінна адыграць інтэгруючую ролю ў грамадстве. Пра гэта гаварыў у сваім выступленні доктар гістарычных навук М. Ткачоў. Ён даў негатыўную ацэнку з'езду КПБ, які праходзіў у тыя дні. Крытыкаваў вучоны і часопіс «Политический собеседник». Трэба, на яго думку, паставіць пытанне аб гэтым часопісе рубам і накіраваць паперу, што ідзе на прапаганду шавінізму і антысемітызму, на падручнікі па гісторыі, на беларускамоўныя выданні, якіх так сёння не хапае. Трэба ўсім нам пакончыць з панікай і згуртавацца на падставе вышэйшых чалавечых каштоўнасцей.**

З гэтымі словамі, відаць, пагадзіліся ці не ўсе ўдзельнікі форуму.

**Віталь ТАРАС.**

# Хто крыўдзіць праваслаўных?

ПРА ТОЕ, што на Полаччыне крыўдзяць праваслаўных, я ўпершыню пачула ў апошні дзень святкавання 500-гадовага юбілею Францішка Скарыны на ягонай радзіме.

...Свята заканчвалася. Ягоны трэці дзень увогуле ўжо быў не вельмі шматлюдны і вясёлы. Імжыў зацяглы дробны дождж, раз'язджаліся шаноўныя госці з далёкіх краін, з розных куткоў Беларусі. Ужо радзей чулася на вуліцах беларуская гаворка — Полацк пачынаў жыць сваім звычайным будзённым жыццём. У Сафійскім саборы толькі што скончыўся канцэрт. Ды раптам на двары, ужо за сценамі храма я пачула спевы — непадалёк ішло каталіцкае набажэнства. У наш час людзей, вядома, ужо мала чым уразіш, але тое відовішча прымусіла мяне здранцвець. Ніколі і нідзе мне не даводзілася бачыць, як адпраўляецца імша пад адкрытым небам, пад дажджом.

Становішча вернікаў-католікаў на Полаччыне — тэма асобнай гаворкі. І гаворкі няпростай. Бо многія з тых, хто кожную нядзелю прыходзіць да Сафійскага сабора маліцца, памятаюць, як у 1933-м годзе проста з храма энкаусаўцы забралі ксяндза, як іхніх многіх родзічаў пазабіралі чорныя «варанкі», як у віну ставілася, што яны — католікі, а, гэта значыць, і «палякі», а, значыць, і магчымыя польскія шпіёны. Людская памяць беражэ ў сабе многае. І чорнае, і светлае. Бабулькі, якім цяпер па 80—90 гадоў, распавядалі мне і пра тое, як радасна звanілі некалі званы полацкіх касцёлаў. Да вайны іх было пяць. Але, паўтару, усё гэта тэма другой гаворкі...

Тады ж, калі я ўпершыню прысутнічала на імшы каля Сафійскага сабора, мяне ўразіла і яшчэ адно відовішча. Некалькі маладых хлопцаў і дзяўчат бадзёра ўзбеглі па драўлянай лесвіцы да Сафіі, разгарнулі сцяг з нязвыклымі для тутэйшых мясцін колерамі, узнялі партрэт цара Мікалая II і плакат «Православную Софию — православным».

Я папытала аднаго маладога чалавека:

— З якой вы арганізацыі? Які гэта сцяг?

— Как? Разве не знаете? Русский. Дореволюционный.

— А ваша арганізацыя, — здагадалася я, — «Айчына»?

*Хлапец паправіў:*

— «Отечество».

Далей я пачула выкрыкі накшталт: «Долой унию!», «Руки прочь от Софии!», «Вернем святыню!»

Ішла імша. Да неба ўзляталі словы малітваў. Сурова глядзеў з партрэта самадзержац. Маўчала Сафія.

Трохі пазней у Полацку і Наваполацку з'явіліся лістоўкі за подпісам «Союз «Белая Россия». З іх я таксама «даведалася», *што*, аказваецца, Полацкая Сафія «разграблена, брошена и подвергается разрушению, как и наши православные люди — изгнанию, репрессиям и уничтожению». Тут ужо, як кажуць, і ўвогуле *мурашкі пабеглі па целе* ад гэткіх жахаў. Што ж гэта робіцца на нашай зямлі? Зноў рэпрэсіі? Зноў — выгнанне за веру, перакананні?

Але пакрысе трывога аціхла: праваслаўныя вернікі як і раней, ішлі ў нядзелю ў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр, маліліся, ставілі свечкі і ніхто ім там рукі не выкручваў. Больш таго, *пайшла почутка* ў народзе, што Багаяўленскі храм у Полацку перадаецца праваслаўным вернікам. Што ж, падумалася, справядлівасць павінна вярнуцца на гэтую зямлю, але, вядома, не за кошт выкінутых на вуліцу палотнаў мастакоў, якія знаходзяцца цяпер у храме. Хоць бы таму, што сапраўдная культура ніколі не была антыподам рэлігіі. І наадварот.

Таму, калі наша гарадская газета паведаміла: «Будет храм божий в Новополоцке», я таксама парадавалася за праваслаўных хрысціян. Праўда, на аўтобусных прыпынках, дзвярах крамаў, кіёсках па-ранейшаму з'яўляліся надрыўныя *лістоўкі* «Белой России» — з двухгаловым арлом і без яго. А ў іх усё тыя ж заклікі: «Руки прочь от нашей древней православной святыни! Отстоим православную жемчужину! Пришло время зажечь в ней *православную лампаду!*» І ні слова, вядома ж, пра тое, што Полацкая Сафія працяглы час была уніяцкай. І, вядома ж, ні слова пра пасечаных у Сафіі Пятром I уніяцкіх святароў. Як ні слова і пра ксяндза *Лук'яніна*, *якога ў 1933 годзе за*бралі Велікодным днём проста з Сафіі энкаусаўцы. Але гэтыя лістоўкі ўжо ўспрымаліся, як нейкае непаразуменне. Давялося пачуць нават жарт: «Ну, выпусцілі манархісты зашмат прадукцыі — вось і заклейваюць па інерцыі гарады, каб не прапала іхняя праца».

Але вось зусім нядаўна ў рэспубліканскай газеце «Звязда» за 14.11.90 г. з'явілася маленькая нататка «Будаўніцтва храма пад сумненнем». У ёй паведамлялася, што «славуты Сафійскі сабор у Полацку перадаецца Віцебскай Полацкай епархіі».

А далей невядомы аўтар бедаваў *па тым, што* ў *Наваполацку* не спяшаюцца даваць дазвол на будаўніцтва праваслаўнага храма, кідаў папрок работнікам аддзела культуры, а затым, быццам між іншым, у нататцы паведамлялася: «...мы маем канфідэнцыяльную інфармацыю, што прычынай з'яўляюцца напружаныя адносіны паміж уніятамі і прыхільнікамі рускай праваслаўнай царквы».

Вось табе і маеш! Зноў напружанне? Ды толькі ні ў гарвыканкоме, ніхто з маіх знаёмых праваслаўных вернікаў, ні з уніятаў так і не згадзіўся пацвердзіць «канфідэнцыяльныя звесткі». Як, дарэчы, не захацелі пацвердзіць і полацкія ўлады, што Сафія перадаецца праваслаўным.

А царква ў Наваполацку будзе пабудавана. Вядома, калі гэтага захочуць самі вернікі. Зямельны ўчастак для яе будаўніцтва выдзелены. Дарэчы, ні ў гарвыканкоме, ні ў ягоным аддзеле культуры не давялося пачуць, што храм будаваць нявартa. Не пачула я гэтага ні ад каталіцкай абшчыны, ні ад уніятаў.

Дык хто ж крыўдзіць праваслаўных на Полаччыне? Альбо, кажучы іншымі словамі, каму гэта патрэбна — ствараць напружанне вакол усіх гэтых пытанняў? Няўжо шчырым вернікам? Перакананa, што не ім. Не будуць яны і з партрэтам бацюшкі цара разгульваць па вуліцах старажытнага беларускага Полацка. Спадзяюся, *што* не будуць і сумаваць з тае прычыны, што жывуць яны ў Беларусі, а не ў «Северо-Западном крае», як таго жадалася самадзержцам і іхнім верным служкам.

І апошняе, пра што не магу не сказаць. Вельмі спадзяюся, што на Полаччыне ў хуткім часе будзе ўзноўлена справядлівасць і ў дачыненні да беларускіх католікаў, уніятаў. Гэтак жа хочацца верыць і ў тое, што ў найстаражытнейшым беларускім горадзе каталіцкае набажэнства будзе адпраўляцца *па-беларуску*. Зрэшты, досыць, відаць, ужо быць чужаніцай нашай роднай мове і ў праваслаўных храмах. Можа, тады меней будзе ў нас крыўдаў з-за веры? Не спатрэбяцца тады нам і «заступнікі». Як, *перакананa*, не патрэбныя і цяпер.

**Ірына ЖАРНАСЕК.**
г. Наваполацк.

ПІШУЧЫ АРТЫКУЛЫ пра актывізацыю прапольскай дзейнасці рымска-каталіцкага клеру на Беларусі, я мімаходзь згадваў і Рускую Праваслаўную Царкву. Апошнія падзеі вымушаюць вярнуцца да гэтае тэмы.

Царква, якая ад часу Васіля III была пад пятою манархаў, царква, якая ад часу Пятра I апынулася пад кіраўніцтвам свецкіх асоб, царква, якая з таго часу атрымала загад раскрываць таямніцу споведзі... Нездарма лепшыя розумы Расіі былі ў апазіцыі да яе. І не толькі П. Чаадаеў, В. Бялінскі, А. Герцэн, М. Бакунін... Выдатныя рэлігійныя філосафы ад Л. Талстога і У. Салаўёва да А. Меня — таксама. Мень, скажуць мне, быў святаром. Так, але іерархі яго і ягоныя працы не любілі. Іерархі не любілі і а. Глеба Якуніна, і лідэра расійскіх хрысціянскіх дэмакратаў В. Аксючыца (дарэчы, беларуса). Яны парушалі спакой іерархаў, выкрывалі іх хлусню пра свабоду сумлення і рэлігіі ў СССР. Мне дакладна вядома, што нашага земляка а. Уладзіміра Русака, які напісаў грунтоўную працу пра новых пакутнікаў, «органам» выдаў адзін мітрапаліт, чыю «благообразную» сівую бараду мы часта бачым на тэлеэкранах.

Зрэшты, РПЦ рабіла сваю справу. Бальшавікоў у школах таксама выхавала яна. Даследчыкі (у прыватнасці, М. Капусцін) *паказваюць, што* пасля кастрычніцкага перавароту бальшавікі перанялі ад рускага праваслаўя эстафету, бо яны гэтак, як і царква, пачалі ставіць Расію па-над светам. Раней сцвярджалася, што Расія нясе сапраўднае святло хрысціянства, потым сталі сцвярджаць, што Расія стаіць у авангардзе прагрэсіўнага чалавецтва. Тэрміналогія розная, але сутнасць адна — вялікадзяржаўная, месіянская.

Камуністам стала цяжкавата. Ім усё менш і менш вераць. І вось, спекулюючы на цалкам зразумелым імкненні народа да хрысціянскіх вартасцей, учарашнія ганіцелі рэлігіі зрабілі стаўку на клер, на іерархаў. Асабліва небяспечны гэты тандэм ва ўмовах Беларусі. Усякія праявы беларускага патрыятызму ва ўлонні Царквы выкарчоўваюцца. Іерархі ўпарта ігнаруюць нашу мову. Епіскап Дзімітрый Полацкі і Віцебскі шакіраваў нашых гасцей з-за мяжы: на скарынаўскай урачыстасці ў Полацку ён, беларус, прамаўляў па-руску. Англічаніну Дж. Дзінглі было няўцям: як гэта можна? Яшчэ як можна!

Пры маўклівым патуранні ўлады клер пайшоў у наступ. Ужо практычна забралі нацыянальны музей у Заслаўі. Айцец Мікалай па тэлебачанні фальсіфікуе гісторыю: кажа, што на месцы кальвінскага збору, у якім месціцца музей, была царква ад часу Рагнеды, хоць археолагі знайшлі там толькі памяткі XIV ст. Але а. Мікалай фальсіфікуе, падбухторвае вернікаў, распальвае фанатызм. На пытанне вядучых праграмы «Крок» пра беларускую мову ў святыні праваслаўны бацюшка мудра маўчыць.

Царква, якая пальцам аб палец не ўдарыла дзеля выратавання ікон у час хрушчоўскага наступлення на рэлігію, цяпер вядзе наступ на Дзяржаўны мастацкі музей БССР. Царква, якая маўкліва аддала храмы ды іконы, падгаворвае вернікаў ладзіць пікеты ля музея. Экзарх Філарэт кажа па тэлебачанні, што іконы павінны быць у храме. Праўда. Але праўда і тое, што раней, калі не было дазволена, Царква не адстойвала святыні, а сам уладыка ездзіў па свеце ды апавядаў, як добра жыць Царкве пры Савецкай уладзе.

У той самай перадачы Экзарх, наракаючы на брак абразоў, паведаміў, што іканапісцаў рыхтуюць у Загорску. Мастак А. Марачкін далікатна нагадаў, што ў нас былі свае школы іканапісу. Мітрапаліт прыняў інфармацыю да ведама, але з далейшай гутаркі было відаць, што яму мілейшая школа руская, загорская.

*Адчуўшы* падтрымку афіцыйных структур, РПЦ ідзе наперад. Яна патрабуе Полацкую Сафію. Епіскап Дзімітрый ужо гатовы служыць там. У якой Сафіі? У той, што ўзарваў рускі і праваслаўны Пётр I? Бо гэтую Сафію пабудавалі уніяты. Пры дапамозе цара і жандараў у 1839 годзе яе забрала Праваслаўная Царква. Хто дапаможа ёй цяпер? Ці не падпольная «Белая Россия»? Ці не ўрад БССР? Што ж, наш урад *і не на такое здатны*. Толькі трэба памятаць: там, у Сафіі, Пётр забіваў уніяцкіх святароў. Кроў гэтых пакутнікаў павінна стрымаць праваслаўных іерархаў, калі яны маюць сумленне.

...А тым часам з Віцебска прыйшла вестка: гарадская міліцыя чыніла перашкоды тамтэйшым уніятам, якія выйшлі працэсіяй на вуліцу. Міліцыянеры намякнулі: быў тэлефонны званок з Экзархату. Што ж, гэта не дзіва: Руская Праваслаўная Царква мае даўнія традыцыі супрацоўніцтва з ахоўнікамі існуючых рэжымаў.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ.** **Як сведчаць вынікі сацыялагічных даследаванняў, адным з найбольш уплывовых фактараў грамадскай свядомасці з'яўляецца *сёння шырокая сімпатыя да рэлігійных арганізацый*. Менавіта да іх найменшая колькасць людзей ставіцца з недаверам. Клерыкальныя інстытуты пачынаюць займаць паважнае месца ў грамадстве.**

**І наўрад ці толькі снежным комам нявырашаных праблем, якія абрынуліся на чалавека, тлумачыцца ўзросшая цікавасць да царквы. Пачаўся працэс сапраўднай рэалізацыі неад'емнага людскога права — права на свабоду сумлення і веравызнання.**

**Іншая справа — як ідзе гэты працэс у краіне, да нядаўняга часу ваяўніча атэістычнай? На жаль, на «шляху да храма» нямала «выбоін», прычым такіх, якія характарам сваім не маюць нічога агульнага з сапраўдным спасціжэннем Бога. У міжканфесійных канфліктах вакол перадачы вернікам культавых будынкаў часцяком ёсць дамешак не самых чыстых палітычных гульняў і звычайнай нецывілізаванасці. Пра гэта, у прыватнасці, і пішуць у сённяшнім нумары І. Жарнасек і А. Сідарэвіч (апошні, праўда, выказаўся досыць катэгарычна).**

**Са свайго боку, нам хацелася б засяродзіць увагу вось на якой *праблеме. Сёння вернікі прэтэндуюць і на такія храмы, якія* маюць надзвычайную гістарычную і мастацкую каштоўнасць. Некаторыя з іх цаной вялікіх намаганняў адрэстаўраваны, сталі асяродкамі культуры. Напрыклад, Сафійскі сабор — дамінанта Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, значэнне якога ў духоўным жыцці рэспублікі ўжо цяжка перабольшыць.**

**Аддаць Сафійку вернікам (аналагічная сітуацыя, дарэчы, утварылася і ў Заслаўі)? Каму — праваслаўным, каталікам? Хто зробіць выбар? Відавочна, што рашэнне на карысць адной з дзвюх канфесій толькі абвострыць канфлікт. Выкажам і такое сумненне: ці здолее тая ці іншая абшчына падтрымліваць тую атмасферу, якая, дзякуючы руплівай працы супрацоўнікаў запаведніка, існуе сёння вакол Сафійскага сабора?**

**Пытанні, пытанні... Яны патрабуюць неадкладнага адказу. Дзеля гэтага 12 снежня ў Полацку адбылася сустрэча патрыяршага экзарха Беларусі мітрапаліта Філарэта, біскупа каталіцкай царквы на Беларусі Т. Кандрусевіча і прадстаўнікоў Савецкай улады. Пра вынікі сустрэчы «ЛіМ» паведаміць.**

## Упершыню ў «ЛіМе»

*Андрэй Пяткевіч нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна. Вучыўся ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце. Працаваў пажарным, вартаўніком, лесарубам, качагарам, паляводам у калгасе. Зараз жыве ў Гародні.*

*Сёння штотыднёвік змяшчае яго першыя вершы.*

**Андрэй ПЯТКЕВІЧ**

●

Я прайшоў блізні свет,
Куды й сам не дайду,
Аб'яднаўшы навек
Радасць, боль і жуду.

Я ў мачанні дарог
Паміж хваляў быцця,
І знікае ў вачох
Прамяністы прасцяг.

У мой лес, поўны слёз,
Я ад зброду уцёк.
Выпадковы свой лёс
Я на крыж не ўзвалок.

І, пакінуўшы тлум,
Толькі мары ў руках,
У таемнасці йду—
Гэта з цемры мой шлях.

### Лясніцтву

Мы пілавалі і ставілі метры.
Елка—народу, бяроза—панам.
І на дажджы, на марозе, на ветры
Праца прывычная леснікам.

Праца, лясная звычайная праца.
Шум вершалін, лапатанне пілы.
Ёсць жа на свеце, якія баяцца
Гэтае працы, як муха смалы.

Зноў у Гародні вучоба чакае,
Толькі мінецца там колькі гадоў—
Скончу навуку, дыплом атрымаю,
Плюну, пайду працаваць леснікам.

●

Навошта непатрэбныя клапоты,
Нашто дамы — шпакоўні да нябёс?
Калі ў мяне спытаюць людзі: «Хто ты?»
Ім адкажу: «Я вучань ціхіх слёз».

Пайду... Хай кроні зарастуць травою,
І сцежка знікне ў глыбіні лясоў.
Душа, я буду назаўжды з табою!
Я не збягу ад ціхіх галасоў.

### Звышчалавек

—Я звышчалавек. З агідай і пагардлівай усмешкай гляджу, як ля ног поўзаюць насякомыя, чарвякі ды іншыя дробныя істоты. Яны не ўяўляюць, што я ёсць.

Усё часцей і часцей бачу сябе ў вайсковым убранні з аўтаматам у руках. Магутным і вольным. Гэта хвароба. Мне яна падабаецца.

Я не люблю чалавецтва. Я хачу яго знішчыць, але не магу. Хоць атамнаю зброяй, якую заўсёды нашу з сабою ў кішэні, я магу сцерці непатрэбны Сусвет, але баюся, можа адбыцца ланцуговая рэакцыя—і загінуць іншыя, зусім нявінныя сусветы.

### Гарбуз

На градках, дзе вясёлыя наўкол
Расліны: морква, рэпа, памідоры,
Дзе кабачкі жаўцеюць, нібы зоры,
І агуркі ачэпліваюць дол,—
Гарбуз ляжыць, як пасля працы вол,
Ды пасміхаецца—ён сёння у гуморы
І ад нітратаў шчэ не вельмі хворы.
У хуткім часе трапіць ён на стол.

Качаецца, як бочка на узмежку,
А лета шле яму сваю усмешку,
А гаспадыня, стаўшы на мяжы,

Глядзіць на агародчык ціха й ветла,
І думка, нібы пчолка, ўецца светла:
«Вось ладны вырас, што ты ні кажы».

●

Дзень прыляцеў і на стрэхі сеў,
Воблакі дзяўбе сабе патроху.
Помню, я таксама крылы меў
І лятаў за музаю далёка.

Толькі хутка надыходзіць ноч.
Чорнай курыцай на стрэхі села,
У вокнах загарэлася святло,
Час ісці дзяўбці сваю паперу.

**Людміла КОРАНЬ**

# «Што значыць цяпер чалавек?..»

**Па старонках раманаў В. АДАМЧЫКА**

СЁННЯ мы рэвізуем сваю мастацкую спадчыну. З асаблівым імпэтам—літаратурныя творы савецкага часу, адзначаныя афіцыйным поспехам. Добра гэта ці дрэнна, і ці карэктна робіцца,—тэма асобнай гаворкі. Тут жа размова пойдзе пра плён В. Адамчыка — вядомую трылогію «Чужая бацькаўшчына» (1978 г.), «Год нулявы» (1983 г.), «І скажа той, хто народзіцца» (1987 г.), якая з публікацыяй новага рамана «Голас крыві брата твайго» («Полымя», 1990 г., №№ 1—3) зрабілася ці не класічнай эпапеяй савецкага часу.

Напачатку гэтая проза раздражняла-такі нашага мітуслівага чытача старамоднай марудлівасцю аўтара, манераю ледзь не па сем разоў на старонцы ўжываць адзін і той жа апісальны перыяд альбо любімае слоўца, не адыходзіцца далёка ад Верасава, хіба толькі ў Дварчаны, а таксама скрупулёзнай дыялектнасцю мовы, з якой нялёгка было асвойтацца нязвыкламу, можа, і да мовы літаратурнай гарадскому чытачу. Моцна ўсё ж звязаны В. Адамчык са сваім «эпічным» пакаленнем — І. Чыгрынавым, І. Пташнікавым...

Аднак жа «эпас» — тэрмін сур'ёзны. Ён ці стасуецца да Адамчыкавай тэтралогіі? Пэўна, што так — у папулярным, неакадэмічным сваім значэнні стасуецца. Таму што моцны ў раманах В. Адамчыка элемент рэпрэзэнтацыі — гэта як бы асобная мастакоўская мэта, роўная са звышзадачай усяго твора: акунуць чытача па макаўку ў свет, перадусім нацыянальны. Таму што праз смугу і падкрэсленую шэрань заходнебеларускай рэчаіснасці бачацца ў тэтралогіі вялікія таямніцы жыцця, яго вітальныя сілы ў інтэр'ерах мяккай беларускай красы. Бачыцца сам народ-эпас, сцудносны з вечным, і немалая частка ягонага крыжовага гістарычнага шляху. Праўда, не ўсё з пераліцанага пазначана на эпічным палатне В. Адамчыка аднолькава буйна і выразна; раманы звязваюцца ў тэатралогію больш інерцыяй формы, чым арганічнасцю свайго адзінства; але гэта ўжо — тыпалагічныя рысы савецкай эпапеі.

Асабліва ў традыцыях эпасу першы раман В. Адамчыка «Чужая бацькаўшчына». У гаворцы пра яго не абмінуць слова «патрыярхальны»: завядзёнка пабытавага ўкладу люляе чалавека ў рамане аж да моманту ягонай унутранай душэўнай катастрофы. Павінна здарыцца нешта глабальнае ў псіхалагічным развіцці героя,—нейкая страсць, нейкі новы этап у станаўленні характару,—каб ціхая паверхня ўскалыхнулася, каб падзея зарэгістравалася як летапісны факт. Трывогі свету ўваходзяць у верасаўскае жыццё як нешта далёкае аж да таго моманту, пакуль ужо літаральна за горла не возьмуць; у адным вымярэнні суіснуе пярэдадзень другой сусветнай вайны і навала падрабязнасцей беларускага побыту. Патрыярхальнае лучыць з высокім канкрэтыка—унутраны свет чалавека, гэты космас, у якім вырашаецца ўсё.

**Заўважым, што апавяданне ў В. Адамчыка і вядзецца пераважна праз унутраны свет герояў, якія змяняюць адзін аднаго перад аўтарскім зрокам. Гістарычны кантэкст нярэдка падаецца толькі скупымі прыкметамі, намёкамі (эпізадычны гаспадар кнігарні «быў трохі ў Грамадзе, ведаў Мятлу і Рак-Міхайлоўскага» — гэта адзіная фраза на ўсе чатыры раманы пра згаданыя рэаліі; або: жаніх «з Вільні, што адыходзіла, кажуць, пад Літву», — таксама адзіная згадка), што прымушае зазірнуць яшчэ раз у выхадныя дадзеныя першых трох кніг: сямідзесятыя-васьмідзесятыя гады.**

Апавядаць, абапіраючыся на кругагляд герояў, няпроста. Ёсць мажлівасць адкрыць кожны персанаж як непаўторны свет—і гэта, зрэшты, галоўнае, і гэтым В. Адамчык прыцягальны, але ёсць і кампазіцыйная нязручнасць. «Чужую бацькаўшчыну» ад статыкі ратавалі масавыя сцэны: чытанне газет у чыёй-небудзь хаце, сходы, мужчынскія гутаркі за агульнай справай і нават дыялогі ды палілогі. Яны выконвалі ролю фабульных вузлоў сюжэта; тут заўсёды нешта завязвалася ці вырашалася, тут рух сюжэта атрымліваў новы штуршок. У наступных кнігах—«Год нулявы» і «І скажа той, хто народзіцца».— В. Адамчык-раманіст больш гнуткі як апавядальнік. Пры вельмі моцнай «счэпленасці» ўсіх падзей, пры ясных, прасочаных аўтарам сувязях усіх персанажаў агульны рух сюжэта зрабіўся больш натуральным і нязмушаным. Тут ужо пачала выяўляцца тая залежнасць характараў і абставін, пра якую сказана: характар—гэта лёс. Менш «шэкспіраўскага» размаху, затое больш натуральнасці і больш «знешняга», шырокага жыцця.

У апошнім жа рамане тэтралогіі, «Голас крыві брата твайго», падзеі развіваюцца найбольш імкліва, вольна і ў той жа час нібы прадвызначана. Прытым, што ягоны пачатак—інфармацыйная скорагаворка, што сустракаюцца і немалыя кавалкі тэксту, якія пакідаюць уражанне «сырых», неадпаведных агульнаму тону, пачуццёваму строю рамана (напрыклад, «прыгоды» бацюшкі Амвросія Дэконскага і інш.),—пры ўсім гэтым у ім бачныя плённыя пошукі гарманічнага мастацкага стылю. Ужо праз два дзесяткі старонак пазнаецца ранейшы скрупулёзны В. Адамчык, але гэта ўжо і новы В. Адамчык, бо, нарэшце, каструбаватасці і паўторы не б'юць у вочы; характэрнае цяпер само сабою выступае на паверхню стылю як выява глыбіннага зместу, у той час як раней рух ішоў наадварот — ад знешняй перанасычанасці да выспявання сэнсу.

Зместам жа, асабліва гістарычнымі фактамі, «Голас крыві брата твайго» значна багацейшы за папярэднія раманы, мяркуючы нават па лаканічнай часопіснай публікацыі. І не дзіўна: дзевяностыя гады за вакном. Як ужо пісалася ў друку першымі рэцэнзентамі гэтага твора, ён заслугоўвае падрабязнага вывучэння, і перш за ўсё дзякуючы ў многім новаму асвятленню В. Адамчыкам такой, здавалася б, традыцыйнай тэмы, як Вялікая Айчынная вайна на Беларусі.

Гэтая вайна толькі сёння перастае быць для большасці насельніцтва краіны легендай, міфам пра геніяльную тактыку і стратэгію яе правядзення ды пра неабходнасць той колькасці ахвяр, якіх яна каштавала савецкім народам. А вось айчынная партызанская вайна да гэтага часу амаль недатыкальны міф.

Партызанскі рух у ніводнай, бадай, з тых краін свету, што былі пад ворагам у гады другой сусветнай вайны, не прынёс сваёй Айчыне такой пакутніцкай славы, як партызанскі рух на Беларусі. І слава гэтая такая вялікая, што «станоўчаму» беларусу тых часоў нібы належыць быць партызанам, нібы самі паняцці гэтыя—тагачасны беларус і партызан—ледзь не тоесныя: «рэспубліка-партызанка», «гарыць беларуская зямля пад нагамі фашыстаў»...

Сапраўды, вораг пры выпадку кожнае беларускае немаўля з калыскі катаваў гэтаксама, як героя-змагара з лясной зямлянкі,—чым не падстава ўвесь народ назваць партызанскім?

Так, нашыя немаўляты здабылі нам вялікую славу, і калі нарэшце здоўжыцца нам ганарыцца ёю...

У беларускай літаратуры ўжо ёсць такія героі, як Толя Корзун А. Адамовіча, Сцёпка Таўкач, камбрыг Прэабражэнскі, настаўнік Мароз і Брытвін, Антон Галубін В. Быкава, быкаўскія Сотнікаў і Рыбак, Сушчэня і Войцік. Ёсць карнікі А. Адамовіча: не толькі прымітыўнае звяр'ё, але і чалавечыя характары савецкага часу са сваімі вытокамі і гісторыяй. Ды такіх партызанаў, як у апошняй кнізе В. Адамчыка, здаецца, у нашай літаратуры яшчэ не было.

Прынцыпова новае тут—падкрэсленая непазбежнасць з'яўлення партызана такога, як Жэнік Рэпка. Менавіта такім, як Жэнік, дала Савецкая ўлада неабмежаваную прастору для самасцвярджэння; не душэўна тонкаму Міцю Корсаку, не шчыраму заходнебеларускаму актывісту (у кнізе «Год нулявы») Саўку Аўсяніку, на якіх гэтая ўлада рана ці позна пачынае глядзець з падазрэннем, і нават не былому батраку, неадукаванаму Імполю Верамею.

З Савецкай уладаю ў авангард грамадства выйшаў Жэнік з роду Рэпкаў, спрадвеку бедных, бо былі гультаяватымі і нячыстымі на руку. У вірах 1939 года ён упершыню атрымаў магчымасць адкрыта, агрэсіўна спаганяць з аднавяскоўцаў і чужых свае застарэлыя сацыяльныя крыўды на ўвесь свет. Жэнік вельмі хутка адчуў што ён ужо «ўласць» тут, што ён можа лёгка займець сабе чужую добрую хату «з вазонамі». Жэнік — першы там, дзе трэба забіваць і рабаваць «класавага ворага». Пры немцах пасля такога «камуністычнага» шчыравання Жэніку, зразумела, даводзіцца хавацца, і дзе ж урэшце знайсці яму ратунак, як не ў партызанскім атрадзе?

Тут, у новым пачэсным званні камандзіра партызанскай групы, ён працягвае сваю зацятую, лютую грамадзянскую вайну. На рахунку Жэніка і тыя «аперацыі», якія маюць на ўвазе шкоду непасрэдна фашыстам: абстрэл будкі дварчанскай паліцыі, ладаванне міны пад пусты спальны вагон на запасных рэйках, пагром цягніка на станцыі цаною запланаванай (наколькі здольны планаваць шалёны Жэнік) смерці паплечніка.

Жалю вартыя не толькі вынікі такіх «аперацый», не толькі партызанская зброя, адкапаная з магіл і небяздзельная, прыдатная толькі для таго, каб запалохваць сялян на «рэквізіцыях» харчу.

Скрушна тое, як мала адрозніваюцца ад карнікаў такія «народныя мсціўцы», як паплечнікі Жэніка (іх трое): прымітыўныя, жорсткія, сярод якіх пісьменнік не паказаў (думаецца, свядома завастраючы) ніводнага Рэпкавага антыпода.

Але самае страшнае — гэта тая вялікая, вельмі вялікая «ўласць» над чалавечымі жыццямі, якую мае Рэпка-партызан: пагнаў купку мужыкоў ноччу рэзаць тэлеграфныя слупы—і ўжо раніцай казакі замучылі і павесілі на крыжы знаёмага Жэніку з дзяцінства дзядзьку Марціна Ваўчка; закатаваў Рэпка выпадкова захопленага ворага—і вось ужо ўся Жэнікава родная вёска спалена разам з людзьмі.

**Як вядома, сталінская ваенная дактрына мела на ўвазе толькі карныя мерапрыемствы, толькі шквал рэпрэсій ва ўсіх тых выпадках, калі ваенная ўдача была не на баку савецкага камандавання, а значыць, не на баку савецкага чалавека — вайскоўца, што не мог не трапіць у акружэнне, ці цывільнага, кінутага разбітым войскам у тыле ворага. Ахвяравалася і сама акупіраваная зямля: ёй прадпісвалася ператварыцца ў магму, у плазму, у пратуберанец,—у што заўгодна, толькі не ў зямлю, на якой змог бы жыць і выжыць чалавек. Сваіх лічылася амаральным шкадаваць, мэта была адна: нашкодзіць ворагу любой, любой, любой цаною...**

**Чалавек асабліва безабаронны, а свет асабліва бязлітасны ў часы адкрытай экспансіі грубай сілы.**

**На Беларусі вайна 40-х гадоў была катастрофай, бо на гэтую зямлю, на галовы гэтых людзей абрынулася не толькі нечувана жорсткая агрэсія заваёўнікаў. Згубнаю стала і тая раз'юшаная лютасць суайчыннікаў адзін да аднаго, што была насаджана таталітарным рэжымам у душах людзей, падзеленых на «чыстых» і «нячыстых».**

Усё ж такі існуе яшчэ ў нашай грамадскай свядомасці пэўная, не адным годам напрацаваная, зададзенасць: да партызана ў нас нібы заўсёды ёсць крэдыт павагі, а да селяніна, што жыў пад немцам, — перасцярога. Неяк нязвыкла нам мець на ўвазе, што без мужыка-земляроба не выжыць было б і партызану, — не кармілі ж байцоў адно лясы, балоты ды самалёты з Вялікай зямлі. Няма ў нас завядзёнкі браць пад увагу і тое, што карміцца з мазалёў гэтага ж самага мужыка мелі намер і іншыя: немцы-акупанты, карнікі, мясцовыя паліцэйскія гарнізоны, казакі атамана Паўлава (пяць тысяч шабель, расквартараваных толькі на Навагрудчыне), эшалоны РОНАўцаў, марыянетачныя нацыянальныя вайсковыя фарміраванні... І якой жа лютаю была іхняя супольная ўлада, якой катаўскай зброя, якім наглым здзек!

Дык ці ўсвядомілі мы ўжо ясна, трывала такіх герояў нашай літаратуры, як Пятрок Багацька са «Знака бяды» В. Быкав або Улас Корсак з кніг В. Адамчыка сапраўднымі вялікімі героямі вайны?

«Цяпер свет такі—наздзекуюцца, наб'юць—і не акажыся, а слова вымавіш—застрэляць. Што значыць цяпер чалавек? Хто з ім лічыцца? А ці лічыўся калі?»—вось у гэтых рытарычных пытаннях Уласа Корсака — і гуманізм, і Бог, і экзістэнцыя. Прычым уся гэтая філасофія—у падтэксце, у будзённым, калі самы звыклы клопат—пра Міцю, сына, каб не давялося яму ў трыццаць

## Маладыя галасы Гомельшчыны

**Мікола ХАМЯНКОЎ**

### Мама

Зноў у госцейкі завітала,
Заглянула ў пакойчык мой:
Ты мне снілася сёння, мама,
Сінявокай і маладой.

Зноў спявалі, як калісь, шчасліва
Прадсвітальных дажджоў капяжы...
І ты зноўку мяне вучыла
Самай мудрай навуцы — жыць!

Толькі зроблена вельмі мала,
Хай не будзе мне гэта віной...
Ты мне снілася сёння, мама,
Сінявокай і маладой.

### Бярозкі

За слупамі бягуць дарожнымі,
Падымаюцца на грудзі, —
Мне без іх аніяк няможна,
Без бярозак маіх маладых.

Станам — гнуткія,
Тварам — белыя,
Даўгакосыя, як адна.
Падступіла з іх самая смелая
Да аўтобуснага акна.

Зашаптала, захвалявалася,
Як дзяўчо, над світальнай ракой,
Хвалявалася, усміхалася,
Узмахнула услед рукой...

**Алег КАЦАПАЎ**

### Беларусам

Чаго чакаем мы, сябры!
Чаго сядзім, чаму маўчым!
Нас будзяць чуйныя вятры,
А мы ўдыхаем горкі дым.
Чаго чакаем мы, сябры!

Чаму не бачаць нашы вочы
Ні сонца яснага, ні дня,
Ні неба сіняга, ні ночы,
Ні ўзлёт крывіцкага каня!
Чаму не бачаць нашы вочы!

Чаму мы здрадзілі табе,
Зямля паэтаў і паўстанняў!
Чаму забыліся сябе
У доўгіх прыцемках чакання!
Чаму мы здрадзілі табе!..
Чаму!
Хто скажа мне: чаму!

**Ніна ПІНЧУК**

### Добры вечар

Звіняць яблыкі у садзе
Падаюць у травы.
Госцейкі бяседу ладзяць,
Хваляць стравы.
Туманамі ўслана рэчка.
Дрэмлюць вербы.
У паветры пахне грэчкай,
Жытнім хлебам.

Гаспадыня размаўляла
З госцейкамі міла.
Размаўляла-частавала
Спелаю малінай...
За акенцам па-над дахам
Шастаў летні вецер.
...Добры вечар вам у хату!
Добры вечар!

### Ты і я

Ты і я. І нашы мары.
Ты і я. І нашы словы.
Ты і я. І нашы рукі.
Летняй, зорнай ночы споведзь.
Ты і я. І нашы вочы.
Ты і я. І нашы вусны.
Ты і я. Пад крыллем ночы.
На прасторах беларускіх.

**Святлана КАНДРАХІНА**

●

Гукі зямлі запаветнай,
Чуйны ўстрывожаны стан...
Гэта ў кватэры суседняй
Іграе сівы ветэран.

Льецца палеская песня
На пажыццёвай мяжы.
Гукі сцякаюць балесна
На донца святой душы.

Не грукнуць бяздумныя дзверы.
Сцішыцца птушка ў двары,
Калі ў суседняй кватэры
Плача гармонік стары.

**Эдуард АКУЛІН**

### Горад

Я адвык ад тваіх камяніц,
ад патрэсканай скуры вуліц.
Мне бліжэй цішыня старыц,
што падсвечваюць спеў зязюлін.

Я адвык ад тваіх вітрын,
сумятні і людскога тлуму.
Мне радней светлыня калін
з іх спрадвечна дзявочым сумам.

Я адвык, я адвык, адвык...
Хоць ты быў мне прыёмным бацькам.
А у сэрцы, нібыта цвік,
вобраз вёскі — мой боль за маці.

●

Восень прыйшла раптоўна.
Вецер лісты скамечыў...
Восень — і плед шыкоўны
лёг на імшарын плечы.

Восень прыйшла знянацку,
як тэлеграма ноччу.
Восень — і час збірацца
шляхам птушыным крочыць...

Восень прыйшла, і дзякуй,
што прычакаць прыйшлося.
Засцерагальным знакам —
хутка зіма — мне восень.

### Санька

Ён жыў каля рэчкі, ля самага моста,
што вёску адвеку дзяліла з пагостам.
Худы і маўклівы не — выцягнеш слоўка,
Свой хлеб здабываў ён за рэчкай — рыдлёўкай...
Вяскоўцы лічылі яго дурнаватым,
бо гора чужое было яму святам.
Нябожчык у хаце — за ім пасылаюць,
лепш Санькі магілы ніхто не капае.
Ён сёння услед мне глядзеў падазрона,
затым усміхнуўся усмешкай Харона.



Спакой. Фотаэцюд А. КЛЕШЧУКА.

А ТАБЕ, напэўна ж, вядома гэтае шыбенічнае адчуванне, калі на самым досвітку, на самай першай дрыготкай залацінцы дня, — спіцца і не спіцца, сон прыходзіць і няма ніякага сну; калі раптам няма чым дыхаць і табе пачынае здавацца, што сэрца распухае, пачварна разрастаецца, робіцца вялізным і балотнамяккім, як тая (дзіцячы ўспамін) чырвоная падушка, што выпала з цыганскага возу і, нікому ўжо не патрэбная, абскубленая вераб'ямі і абсмоктаная жабамі, ляжыць у калюзе, набракае вільгаццю і небам;

калі хочацца крыкнуць пра сваё сэрца: яно мяне душыць! Але замест крыку няцямлівыя вусны зусім спакойна вышэптваюць амаль фатальную фразу: «Дык гэта ж і ёсць яно, наблізжэнне да смерці...»

Каб пазбавіцца і ад гэтага ледзянога адчування, мы ляцім у Грэцыю, у кананічную для ўсёй Еўропы Грэцыю;

мы ляцім на сваю святочную прарадзіму, імкнёмся да маслінавага паветра еўрапейскага поўдня.

Нашы целыператворацца ў самыя тонкія струны, а душы — у самыя пранікнёныя гукі.

Усе альфы смутку стануць амегамі радасці; усе здзіўлёныя воклічы забудуцца, акрамя самага чыстага здзіўлення: «Божа...»

Як малое лашчыцца да маці, шукае абароны і цеплыні, так будзённая Еўропа — гэтае звышцывілізаванае дзіця — туліцца да святочнай Грэцыі, да яе прыцягальнай даўніны, ратуючыся ад духоўнай пагібелі.

Еўропа малітоўным шэптам успаміне запаветы Элады: культуру трэба ставіць вышэй за цывілізацыю, а цудоўнае ахоўваць ад звычайнага.

І мы, трывалая часцінка будзённай Еўропы, ляцім у Грэцыю, каб яшчэ і пакаяцца, па-дзіцячы прызнацца, што часцей за свечку запальваем электрычную лямпачку, часцей за Евангелле чытаем газету.

Пані Грэцыя, даруй нам і, як вуснам віно, дай нашым душам цудоўнае.

Цэлафанава патрэскваючы, у нашу кроў паволі ўваходзіць дзесяцікіламетровая вышыня. Усе яе марозныя туманы, ледзяныя воблакі і паветраныя плыні алкагольна падступаюць да пацяжэлых скроняў.

Прэм'ерныя каўнерыкі сцюардаў і дымнакасметычная элегантнасць сцюардэс дбайна ствараюць напаўсонны цывілізаваны нябыт. Наша стомленасць і наш вандроўны неспакой, імгненні, што прамінулі, і тыя імгненні, якія не паспелі надысці, — плаваюць у каламутным акварыуме гэтага нябыту, трывожна паблісквваючы, як луска падманутай залатой рыбінкі.

Чалавек на зямлі і чалавек у небе — розныя істоты; на зямлі ён — гаспадар, у небе — госць.

Яго мала суцяшае большая цывілізаванасць неба, засведчаная на біблейным сведчанні: згодна першай кнігі Майсеевай, Бог спачатку стварыў неба, адкуль і вынікае, што засваенне неба пачалося раней, чым каланізацыя зямлі...

Мы — у небе.

Ты просіш цыгарэту, і ў сапфіравым агеньчыку запальнічкі твой антыкварны голас набывае контур абсалютнай чысціні, як мармуровая ваза, амытая эгейскаю хваляй.

Далёка ўнізе — мора.

Высокі голас эгейскае вады перамагае свой уласны шум, нібыта яна, цёплая марская вада, вымаўляе санорныя зычныя.

Надыходзіць небаструннае заспакаенне, і я пачынаю прывыкаць, паступова прызвычайвацца да цябе, да твайго навальнічнага водару. Але ж не, гэта не толькі твой водар, не аднаго табе ахвяраваны абставінамі журботны пах.

Так пахне і маладое бярозавае лісце, гвалтоўна кінутае ветрам на сірочы алтар пакінутай палескай царкаўкі.

І гэтак жа пахне святло кожнай нараўлянскай раніцы. Гнанае палящуцкім болем, ляціць яно за Карпаты, за Альпы і дзе-небудзь у Верхняй Савоі зіхотка падае на старанна дагледжаны, некалі працавіты нож музейнае гільяціны.

Ды не пра яе, далёкую музейную гільяціну (тое далёкае яшчэ будзе), — я апавядаю пра блізкае, роднаснае

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



# РАТАВАННЕ ГРЭЦЫЯЙ

*ego-essai*

нашаму вандроўнаму настрою. Пра жнівеньскую веранду, у якой стаяць на падлозе, дарэмна чакаючы людзей ужо нікому непатрэбныя слоікі з малінавым сокам, а за тонкай, як струна, сцяною ў мядовым гародчыку, паміраючы, зламаная сцяблінка вербены жаліцца соннай кітайскай ружы на свайго няшчырага каханка, на п'янага Палевіка — на нябачнага чалавечаму воку палескага фаўна. Ён толькі што быў у гародчыку, але нават і не зірнуў на няшчасную вербену, адно патаптаўся на градзе і, пакінуўшы ў паветры пякучы пылок смутку, скокнуў на высокі плот — паляцеў адпачываць у свае любыя палі.

Кветкі ў гародчыку, ад страху пахіленыя долу, з палёгкаю ўздыхнулі, бадзёра заварушыліся, а сонная кітайская ружа так і не прачнулася, так і не пачула перадсмяротнае жальбы безнадзейна закаханай вербены.

Я апавядаю, але ты не слухаеш і не глядзіш на мяне, і не адчуваеш майго шалёнага спакою.

Тысячы феерычных слоў нараджаюцца ўва мне, тысячы неверагодных вобразаў. І ўсё гэта адначасова. Я разгублены, я згубіў іхнія таленавітыя пачаткі і геніяльныя завяршэнні. І, як у неахопнай гісторыі старажытнай Грэцыі, вельмі цяжка адрозніць міф ад праўды, а праўду ад легенды (на гэтай цудоўнай мешаніне і заснавана наша ўяўленне аб Эладзе), так зараз і ў маёй душы зусім немагчыма сапраўднае аддзяліць ад прыдуманага, вымаўленае ад напісанага.

Немагчыма!

І гэта выратавальная немагчымасць, бо ўсе мае пачуццёвыя супрацьлегласці, уся мая алкагольная праўда, перакрыжаваная цвярозым фальшам, дапамагаюць мне ў маім бяскрыўдным донжуанстве — ствараць свята табе адной.

Табе адной!

І таму я хачу глядзець толькі на цябе — на твой лёгкі матыльковы шалік, на тваю доўгую сукенку, у якой пазнаю тэатр, ягоную заўсёды патаемную заслону, мімаходзь думаючы, што ў міні-сукенках тэатра мала і вельмі багата кабарэ.

Мне хочацца глядзець на цябе і маўчаць, глядзець бясконца; глядзець і нават не думаць, нічога не чуць, зусім не рухацца, слепнуць ад цябе, як слепне, не страчваючы зрок, мужчына, ператвараючыся ў хлопчыка.

Мне хочацца бачыць, як тоне ў бяздоннай плыні ачышчальнай эротыкі маё шчаслівае сэрца.

Прагну, каб ты высока ацаніла маё ідылічнае донжуанства, якое ці не самы надзейны доказ таго, што я — жыву!

Мы сядзім побач, гэтак блізка, што фізічна пераходзім адно ў аднаго. Нам не перашкаджае адзенне, і паміж намі няма ніякае мяжы, ніякай бачнай лініі, як паміж кветкамі ў вазе.

Ты просіш віна, і я частую цябе чырвоным віном, але не таму, што мне хочацца, каб ты піла, а толькі таму, што мне падабаецца, калі твае вусны пахнуць віном.

Мне падабаецца, калі, расказваючы пра нешта, ці проста смеючыся, ты дакранаешся да мяне, не рукамі — вуснамі, і пакідаеш на маёй цвярозай шчацэ вінны слядок вінаграднага пацалунка.

Пачынаю разумець: мне патрэбна твая заўсёдная прысутнасць, тваё вечна новае цела — дасканалае, як арфічны палёт лебедзя; наіўнае, як маладзіковая сляза; капрызлівае, як вузел, у які непарыўна спляліся гітарныя струны і сцяблінкі ружаў.

І я дакранаюся да цябе ўсім сабой, як дакранаюцца ўдзень да святла, а ўночы — да цемры.

Я — закаханы, і мая закаханасць не абцяжарана сямейнаперспектыўнымі абавязкамі, рытуальнымі абяцаннямі. Вольная, яна ніколі не здрадзіць волі.

Я не хачу, каб закаханасць перарастала ў каханне.

Каханне — пачуццё тупіковае, таму я баюся кахання. Над ім злавесна пацепваецца асінавае лісце нянавісці.

Дык будзь жа вечнай, мая закаханасць, узгадаваная мудрымі анакрэонтыкамі, чыёй паэзіяй салодка наталяюцца мае вясёлыя дотыкі да тваіх рук, да тваіх ног і да твайго лона.

Як Юная Парка, ты хацела застацца нявінніцай.

Пасля Чарнобылю ты не толькі баялася нараджаць — нават не хацела ведаць мужчыну.

І вось мы ляцім у Грэцыю, мы хочам увайсці ў гэтую краіну, як у чыстую ваду, каб змыліся ўсе нашыя страхі і забабоны, усе нашыя бяссонныя ночы і галаваскрутныя дні. Мы верым — у Грэцыі такое магчыма, бо ўся яна — Кастальская крыніца.

Мы будзем вандраваць па гэтай зямлі, не замінаючы нікому — так, як сонечныя парушынкі вандруюць па іконе.

Мы будзем губляць свае целы і знаходзіць свае душы ў незлічонаалтарным храме старажытных напамінаў, імя якому — Афіны.

Ты ўспомніш, як не спадабаліся Афіны святому апосталу Паўлу, ды я супакою цябе: Павел жа наведаў Афіны дахрысціянскія і зусім праўдзіва тое, што гэты горад здаўся яму прыстанкам ідалаў.

Павел любіў не храмы, а нябёсы над храмамі, таму лёгка ўявіць, як абурыў яго Парфенон, што нават і сёння прымушае грэшнага чалавека забываць пра нябёсы.

Па дарозе на Акропаль зойдзем на тайфунны рынак Монастыракі, дзе можна ўмомант звар'яцець, але ў наступны момант без аніякае тэрапіі вярнуцца да поўнага здароўя.

Тут можна набыць ключ да замка, што вісіць на райскай браме, купіць палатняную вопратку анёла і ядвабныя ўборы д'ябла.

Тут можна, як у кавалак шорсткай мешкавіны, закруціцца ў густы, непрадыхны шум.

Тут ёсць храм, царква святога Піліпа — надзейнае сховішча спакою. Гандляры заходзяць сюды ненадоўга, на некалькі хвілін — памаліцца і проста адпачыць.

З Монастыракі вочы цягнуцца да Акропаля, на якім адкрываецца ва ўсім сваім разбурана-пластычным харастве мускулісты атлет гісторыі — Парфенон.

Мы падымемся на Акропаль, і я раскажу табе пра адну ластаўку, якая бесклапотна летавала ў банапартысцкім Парыжы перыяду другой імперыі, а ўсе невыносныя халады перабывала тут — у дэмакратычных Афінах. Яна рабіла кубельца на самім Парфеноне і любіла пра гэта пашчабятаць, пахваліцца іншым парыжскім ластаўкам. Яе залівісты шчэбет аднойчы пачуў Тэафіль Гацье. Паэт быў закаханы ў Эладу, таму ластаўчын узнёслы аповяд пра цудоўнае жыццё на Акропалі ператварыў у ідылічны верш.

Мы знойдзем тое гняздо, блізкае да сонца. Калі ж не само гняздо — то хоць бы мецiну ад яго, ледзь заўважную аксамітную плямку на пентэлійскім мармуры ранішне-ўсходняга пронаосу.

А яшчэ мы ўбачым ката — чорнага, худога ката і здагадліва ўсміхнемся: на Акропалі ёсць мышы!

Кот будзе йсці па-шляхетнаму павольна, на забываючы штохвіліны абнюхваць кожны музейны камень. Дарма хвалявацца, — нягледзячы на ўсю сваю пужлівую чарнату, нашай дарогі ён не перабяжыць, скокне на ўцалелы фрагмент калоны і звесіць доўгі, як дубец, хвост на кудзер іанічнай капітэлі. Пасля, — нічога так і не ўпаляваўшы, — кіпцюрыстым каменем сарвецца з усходняга схілу Акропаля, і яго паглыне Плака — раён старых Афінаў.

Каля тэатральных руін Парфенона, сярод якіх і да сёння блукае элегічны цень Фідыя, мая закаханасць набудзе геаметрычны спакой, і на ўсе твае пытанні я здолею адказаць не проста дакладна, а з матэматычнаю пэўнасцю.

Каля тэатральных руін Парфенона я здолею табе растлумачыць незразумелае апакаліптычнае патрабаванне: узяць і з'есці разгорнутую кніжку.

Не здзіўляйся, калі на Акропалі пачуеш слёзныя мінорныя ўсхлiпы. Гэта Парфенон, уздыхаючы, будзе апавядаць пра сваю трагедыю, пра сваю амаль невылечную хваробу: пачварны бог сучаснай індустрыйнай міфалогіі Нефас, выпускаючы з пашчы пыл, дым, сажу, попел і серу, змешаную з вадой, ператварае старавечны мармур у вапну...

Парфенон, чыім цнатлівым святлом напоена ўсмешка і кожнай беларускай дзяўчыны, жаліцца-плача ўжо не адно стагоддзе, і ягоныя горкія мармуровыя слёзы, скрозь раскіданыя па Акропалі, не высыхаюць.

Грэцыя не хавае сваіх слёз, не ўтойвае ні вялікай, ні малой бяды.

Мы будзем прыпыняцца каля прыдарожных каплічак, глядзець на журботныя маленькія іконы, а таксама на фотаздымкі тых няшчасных вандроўнікаў, што загінулі тут, на дарозе, магчыма, не паспеўшы нават падумаць пра смерць.

Моўчкі мы раскажам ім пра свой боль і страхі.

Хай яны паслухаюць нас і выкарыстаюць святое права мёртвых — права супакоіць жывых.

У Дэльфах дахрысціянскія сцежкі прывядуць нас на бязлюдны, каменны іпадром, што ўзвышаецца над піфійскім тэатрам і адноўленым дарычным храмам Апалона.

Нашую адзіноту і шчаслівую адасобленасць будзе ахоўваць заснежаны Парнас, той самы казачны Парнас, на які ўслед за паэтамі ўзлез аднойчы й непаэт, наш кемлівы палясоўшчык. Аднак ні паэтаў, ні вясёлага палясоўшчыка Тараса мы не ўбачым, убачым на самым версе толькі блакітна-прыцьмелы снег. Супакоімся: некалі ж і Байран на гэтай святой гары бачыў тое ж. Парнас, па сведчанні вандроўнага лорда, быў «увянчаны снегавой каронай»[1].

Я гатовы паверыць: гэтая карона з часоў Байрана не мянялася, заставалася такая ж самая — недасяжна-халодная і блакітна-прыцьмелая.

І тут, на бязлюдным парнаскім схіле, паўней адчуўшы маё непераможнае жаданне, маё заўсёднае імкненне быць з табой, ты пацалуеш мяне, а пасля надта ж сур'ёзна, нібыта ніякага пацалунку й не было, пашкадуеш апошнюю Апалонаву прарочыцу — Піфію, пашкадуеш, як сваю няшчасную сяброўку, што пасля вялікай славы і багацця раптоўна спазнала не проста выгнанне і страшэнную галечу, а найбольшы (ты ўпэўнена ў гэтым!) здзек. Так, найбольшы, бо яна была а п о ш н я я — апошнім жа заўсёды выпадаюць нечалавечыя пакуты.

Гісторыя падказвае: за хрысціянскімі часамі рымскага імператара Феадосія І дэльфійскі аракул быў забаронены, як паганскае з'явішча, і таму йсці да Піфіі, шукаць у яе дапамогі зрабілася вельмі небяспечна.

Горкая мера пакут, зведаных апошняй Апалонавай прарочыцай, яшчэ не вызначана ні гісторыкамі, ні паэтамі.

І сапраўды ж, ці не шкада яе — гэтую магічную істоту, гэтую выдатную актрысу, якая, выкрыкваючы прарочыя словы, здзяйсняла галоўнае — супакойвала людзей, рабіла блізкай і зразумелай будучыню, шчыра служыла Апалону і ягонаму дрэву — лаўру.

З вуснаў Піфіі і з яе прароцтваў ніколі не выветрываўся пах святога лаўровага лісця.

І мы будзем падарожнічаць пад летуценным знакам Апалонавага дрэва.

Вобраз вечназялёнага міжземнаморскага лаўра адновіць у памяці радок-назіранне Уладзіміра Дубоўкі: «...поўдзень, у лаўры спавіты», і праз гэты экзатычны радок мы ўспомнім усю задзірлівую спрэчку маладога ўзвышанца з магутным класікам: «Джордж Байран! Вы йшлі бараніць не грэкаў, а грэцкія міты. Вяла вас антычная ніць на поўдзень, у лаўры спавіты... Джордж Байран! Мінула даўно ўся гэна рамантыка ваша, а з грэкамі туркі ў адно для кухань лаўровы ліст важаць...»

Мы ўбачым і грэкаў, і туркаў, якія разам «лаўровы ліст важаць», і грэкі будуць падобныя на туркаў, а туркі на грэкаў.

У гандляроў заўсёды аднолькавыя твары.

«Пані Грэцыя, — спытаемся, — а дзе твае сённяшнія выдатныя філосафы і паэты?»

«Ды вось яны», — пажартуе пані Грэцыя і пакажа на гандляроў.

Мы ўбачым вавілонскі тысячакрыкі тэатр гандлю — цікавы нават самай нязначнаю сваёй мізансцэнаю: на афінскай вуліцы Нічыпароў белы чалавек прапануе баскетбольнаму негру белыя шкарпэткі. «Пэнць тысёнц», — просіць белы чалавек. Пакупнік не разумее і няўцямна ківае кучаравай галавой. Тады замест элітарнага «пэнць» белы чалавек вымаўляе дэмакратычнае «файф», і гэтае зразумелае «файф», вядома ж, выратоўвае...

У Пірэі, прыафінскім кірмашова-марацкім порт-мястэчку, малінава-бронзавыя гандляры амаль жабрацкімі жэстамі і тужлівымі галасамі, поўнымі ржавага металу і бясконцага спадзявання на ўдачу, ледзьве не становячыся перад намі на калені, будуць упрошваць купіць у іх хоць якую-небудзь рыбіну ці жменю ружовых крэветак.

Але ш т о адчайныя просьбы і крыкі няшчасных рыбнікаў? Хіба вартыя яны будуць нашае ўвагі, калі амаль побач з іхнімі слізкімі, густа абкладзенымі кавалкамі сінявага лёду, прылаўкамі, у цеснай затоцы Саронікас з'явіцца пад белым ветразем старажытная ўнірэма. Яна марудна выплыве з-за непаваротнага тулава сучаснага танкера, пакажацца ўся як ёсць: з намаляванымі драпежнымі вачыма і з крута загнутым угару жоўтым хвастом, таемная марская істота з магутнымі плаўнікамі-вёсламі — па дванаццаць на кожным борце.

Над ёю, апетай ананімнымі аўтарамі вандроўных перыплаў, пачуецца пакутлівы скрогат галерных ланцугоў сірока, і заскуголіць калючы аравійскі пыл. А пад ветразем, пераплеценым смаляной вяроўкаю на квадраты, мы раптам убачым юную грачанку і... ашуканыя праз Пушкіна... страшэнна здзівімся: гэтая калежанка харытаў, нягледзячы на сваё манекеннае харастства, такая з в ы ч а й н а я з выгляду, што напроці любой нашай славянскай ружы — зусім як безназоўная кветка.

У гарах Факіды табе захочацца ўбачыць лаўровы лістапад, апынуцца ў завеі кухоннага, цёмна-зялёнага лісця.

(Працяг на стар. 10—11).

[1] Радок Байрана, перакладзены Р. Барадуліным.

# КАСЦЮШКА І ФАРТЭПІЯНА

**З музычнага архіва**

У «ЛіМе» за 27.07.90 г. быў надрукаваны цікавы і інфармацыйна ёмісты артыкул Кастуся Тарасава «Айчына абаронцам сваім», прысвечаны паўстанню 1794 года і ў прыватнасці яго герою — Тадэвушу Касцюшку. Прачытаўшы яго, я ўспомніла, як у час збору матэрыялу па гісторыі музычнай культуры гарадоў Беларусі XVIII ст. не раз сутыкалася са звесткамі, што маюць дачыненне да жыцця легендарнага паўстанца і дапаўняюць ягоны партрэт некалькімі, мабыць, нечаканымі рысамі.

Справа ў тым, што Касцюшка быў не толькі даравіты палкаводзец, але і здольны музыкант-аматар. Паводле сведчання гістарычных крыніц, ён добра граў на клавікордзе і фартэпіяна і нават спрабаваў складаць музыку для гэтых інструментаў. У канцы XVIII ст. (дакладная дата, на жаль, невядомая) з-пад ягонага пяра выйшаў Паланез для голасу і фартэпіяна. Мяркуючы паводле тэксту («Падарожжа нам тваё не міла, ці не лепей у дому была»,—прыкладна гэтак можна перакласці з польскай яго першыя радкі), твор быў задуманы як своеасаблівае музычнае «бывай» родным і блізкім перад развітаннем. (Як, дарэчы, тут не ўспомніць славуты паланез - «развітанне» другога ўдзельніка касцюшкаўскага руху — Міхала Клеафаса Агінскага).

Нягледзячы на сумны, трывожны настрой, якім прасякнуты вершаваныя радкі касцюшкаўскага твора, музыка не нясе слухачу пачуцця тугі і безвыходнасці. Наадварот, яна быццам дае надзею на лепшы час, што прынясе перамогу над акалічнасцямі і сустрэчу з сябрамі.

Адзначу, што гэты твор мае для нас не толькі чыста гістарычную каштоўнасць. Разам з паланезамі іншых кампазітараў-аматараў Беларусі—Мацея Радзівіла, Осіпа Казлоўскага, Міхала Агінскага—ён паўстае яркім сведчаннем далучанасці нашага музычнага мастацтва да працэсу пераасэнсавання жанру паланеза, пераўтварэння яго з уласна танца ў псіхалагічна завостраную паэтычную карціну, якая ва ўсёй велічнасці сваёй паўстане пазней у творчасці кампазітараў-рамантыкаў, і ў першую чаргу—Фрэдэрыка Шапэна.

І яшчэ. У артыкуле К. Тарасава прыведзены некалькі куплетаў песні, што спявалі беларускія жаўнеры. Да гэтага прыкладу дадам звесткі пра дзве звязаныя з імем Касцюшкі песні, распаўсюджаныя на Беларусі ў канцы XVIII і ў XIX стст. Тэксты іх, змешчаныя ў «Дзённіку Познаньскім» за 23 сакавіка 1882 г., магчыма, вядомыя тым, хто цікавіцца гісторыяй нашага краю (прыгадаю—«Слаўна Вільна, слаўна Гродна» і «Наш Касцюшка слаўны быў, маскалёў ён добра біў»). Што ж датычыцца музыкі, дык апошнюю песню мне ўдалося знайсці, гартаючы зборнік маршаў і песень Войска Польскага з канца XVIII — пачатку XIX ст. «Касцюшкаўскі марш II» — пад такой назвай надрукаваная яна тут у пералажэнні для голасу і фартэпіяна. Праўда, зараз цяжка меркаваць, ці менавіта гэтая мелодыя была распаўсюджаная на Беларусі (магло стацца, што вершаваныя радкі распяваліся і на іншы матыў), але факт папулярнасці і шырокай вядомасці песень на гэты тэкст, што трапіў у зборнік, які вытрымаў некалькі выданняў, не выклікае сумненняў.

Падкрэсліваю, што прыведзеныя звесткі здабытыя мною ў час франтальных пошукаў матэрыялаў пра музычнае жыццё XVIII ст. на Беларусі. І хто ведае, колькі цікавага ўдалося б знайсці, калі б касцюшкаўская спадчына вывучалася мэтанакіравана, намаганнямі гісторыкаў розных галін культуры.

**Вольга ДАДЗІЕМАВА.**

**Marsz. Kościuszkowski II.**




*Музыка*

# БУДЗЕ БЕЛАРУСКАЯ «ХАВАНШЧЫНА»?

**Не люблю гэткіх параўнанняў. І прагнозаў у творчасці не люблю. Але вызначэнне «беларуская «Хаваншчына» будучай оперы дала не я. «Гэта наша беларуская «Хаваншчына»,— сказаў адзін вельмі сур'ёзны і разумны чалавек, спявак, пасля таго, як палова новага твора была паказана ўлетку на мастацкім савеце ДАВТа. А «тэатральны тэлеграф» не надта хутка, ды, спадзяюся, без скажэнняў, перадаў тое і мне.**

**Дык гаворка — пра што?**

**Пра оперу «Князь Наваградскі». У новым для сябе жанры дэбютуе Андрэй Бандарэнка, малады кампазітар з Гродна, на чыё імя «ЛіМ» неаднойчы звяртаў увагу сваіх чытачоў. Аўтар лібрэта (паводле аднайменнай п'есы Л. Пракопчыка, якая ставілася на гродзенскай тэатральнай сцэне) — Вольга Іпатава, сталы і рознабаковы літаратар. Для яе праца над операй таксама дэбют. Вопыт двух дэбютантаў злучае і карэкціруе ўпэўненая рука вядомага практыка музычнай сцэны — рэжысёра Сямёна Штэйна: ён і будзе ставіць новую оперу.**

**Мне пашанцавала заспець усіх траіх за супольнай працай, паназіраць, патурбаваць іх пытаннямі — пад час прыезду кампазітара ў Мінск, Вядома, кабінетная дапрацоўка клавіра — не тэатральная рэпетыцыя з артыстамі. Але ўжо тут зараджаецца відовішча і, галоўнае, дух твора...**

**В. Іпатава.** У дадзеным выпадку ініцыятарам выступіла Міністэрства культуры, якое ўсе толькі крытыкуюць. Да мяне звярнуліся, угаворвалі... Праўда, доўга ўпрошваць не трэба было, таму што гістарычная тэма сама па сабе для мяне вельмі дарагая. І п'еса Пракопчыка для мяне цікавая тым, што яна гаворыць пра адзін з самых цьмяных і самых незразумелых этапаў нашай беларускай гісторыі — пачатак утварэння Вялікага княства Літоўскага з першай сталіцай у Наваградку, Новагародку — я сказала б, так лепш, таму што «Новагародак» — гэта старажытны варыянт назвы горада. І дзве магутныя асобы існавалі ў тым часе і зрабілі вялікі ўплыў па гісторыю — гэта Міндоўг і сын яго Войшалк...

Паводле сённяшніх здагадак Ермаловіча Літва старажытная была ў раёне Слоніма, Карэліч, а Карэлічы — мая радзіма. Вось і дадатковая падстава для працы, для таго, каб я ўявіла сабе на гэтых палях, на гэтых узгорках, у гэтым месцы ўсё тое, што разыгралася ў ў п'есе Пракопчыка, у якую, магу сказаць, я ўклала цяпер шмат і свайго ўласнага бачання гісторыі, тых падзей.

Чаму міністэрства запрапанавала рабіць лібрэта з «чужой» п'есы? Відавочна, што нацыянальнае адраджэнне патрабуе і нейкіх нацыянальных спектакляў. Драматургічны твор на гістарычную тэму, апрабаваны, успрыняты публікай ужо быў: «Князь Наваградскі». У міністэрстве, відаць, палічылі, што перш чым заказваць «ката ў мяшку», лепш узяць ужо вядомае і апрабаванае. Усе мы творцы, усе вельмі хваравіта ставімся да такіх прапаноў: маўляў, чаму гэта мне чыюсьці п'есу, я і сама, можа, п'есу напішу. Але ў дадзеным выпадку я згадзілася, таму што п'еса мне падабаецца, нават больш скажу: цяпер раблю ўсё, каб знайсці дакументы па гэтай эпосе і для свайго ўласнага будучага твора.

Працуючы над лібрэта, я выйшла на абсалютна незнаёмае для сябе поле, хацелася паспрабаваць свае сілы, і вось спрабую...

**С. Штэйн.** Я таксама пачну як ні дзіўна, з Міністэрства культуры Беларусі. Аднойчы затэлефанаваў да мяне У. П. Рылатка. І кажа: «Ёсць такі кампазітар, у Гродне жыве,— Бандарэнка. Ён пачаў пісаць оперу. І мы вельмі зацікаўле-

*Думка чытача*

# РУКІ ЎГОРУ?

Колькі гадоў таму мы назіралі, як з экранаў не сыходзілі станоўчыя героі, якія датэрмінова кавалі чарговую пяцігодку ў жудаснай барацьбе з дробнай бюракратыяй — натуральна, пры падтрымцы мудрых партыйных правадыроў рознага калібра. Святое месца пустым не бывае, і цяпер па тых самых экранах такімі ж згуртаванымі шэрагамі пад грукат стралянін ці трэск мэблі маршыруюць фірмова «прикинутые» каратысты, якія ліха трушчаць сківіцы то парушальнікам сацзаконнасці, то, наадварот, яе абаронцам — у залежнасці ад галоўнай ідэі фільма.

Дарэчы, пра тую самую ідэю.

Няцяжка ўгледзець заканамернасць у тым, што апошнім часам па кінатэатрах краіны праходзіць асабліва шмат фільмаў, якія так альбо іначай малююць сутыкненне чалавека звычайнага з праславутай мафіяй. Нічога дзіўнага: існаванне апошняй у нашым грамадстве «развітога сацыялізму» так доўга замоўчвалася, што цяжка папракнуць кінематаграфістаў, якія дружна ўзяліся асвятляць гэтую тэму, як толькі забарона была знята. Да таго ж само па сабе гэта і няблага: трукавы, дынамічны — словам, відовішчны фільм — якраз тое, чаго нам, гледачам, доўга не хапала. Нядзіўна таму, што народ валам валіць на ўсялякага роду «Злодзеяў у законе», «Белых варон» і г. д.

Здзіўляе іншае: чаму так многа людзей выходзяць з прагляду гэтых (нібыта чыста забаўляльных) кінастужак не ў гуморы? Я б нават сказаў — у засмучэнні.

Мне здаецца, справа тут нават не ў багацці таго «чарноцця», якім перанасычаны ўсе перaлічаныя і многія падобныя да іх фільмы — гэтым нас ужо не здзівіш. Рэч у іншым — у тым, што незалежна ад таго, як закручваецца і раскручваецца сюжэт, любы з гэтых фільмаў канчаецца блага. І блага... менавіта для нас, радавых грамадзян, для пераважнай большасці насельніцтва, якое не адносіцца ні да правапарушальнікаў, ні да праваабаронцаў. А заключаецца гэтае «блага» ў тым, што ў фінале літаральна ўсіх вышэйпрыгаданых твораў кінамастацтва перамагае зло. У асобе той самай мафіі, якая на экране штораз аказваецца... несмяротнай. Як бы ні змагаліся з ёй доблесныя «афганцы» («Белыя вароны» і «Шакалы»), беззапаветныя міліцыянты («Злодзеі ў законе» і «Кодэкс маўчання») і нават непаўторныя агенты КДБ («Жывая мішэнь»). А адсюль і марал якая настойліва ўбіваецца ў нашы, глядацкія галовы нашымі ж, айчыннымі кінематаграфістамі: здавайцеся, хлопцы,—калі ўжо прафесіяналы з гэтай нечысцю нічога зрабіць не могуць, дык вам і зусім лепш не высоўвацца.

Не буду сцвярджаць, што менавіта гэтую мэту праследуюць сваімі творамі нашы кінадзеячы. Але ж аб'ектыўна якраз такі эфект — поўнае маральнае раззбраенне перад злачынным светам — іх прадукцыяй і дасягаецца. Таму што існуе такая рэч, як сацыяльны стэрэатып— устойлівая сукупнасць уяўленняў, якія складваюцца ў свядомасці на падставе ўласнага вопыту і (падкрэсліваю!) з дапамогай крыніц інфармацыі, адной з якіх кіно безумоўна і

# Ратаванне Грэцыяй

(Пачатак на стар. 8—9).

Зялёны без адзінай жоўтай плямінкі лістапад! Такое свята надзвычай дзівоснае для нас, выхаванцаў класічнай восені.

Некалькі лаўровых галінак будуць памінальна ляжаць у пыльнай каменнай чашы, у якую тысячагоддзямі набягала ачышчальная вада з Кастальскае крыніцы.

У гэтую чашу іх выпадкова занёс вецер, ці, можа, нейкі паломнік ушанаваў мёртвую крыніцу.

Але больш верагодна, што лаўровыя галінкі вінавата паклаў у памяць палахлівай німфы Касталіі сам Апалон.

Нашую любоў да цябе, пані Грэцыя, нашую захопленасць, вядома ж, будуць ахоўваць эўзоны — твае высокія, па-балетнаму зграбныя прыгажуны-гвардзейцы, узброеныя карабінамі.

Іхняе адзенне — карнавальны жывапіс!

Сінія або святочна-белыя світкі-фустанэлы; лёгкія чырвоныя чаравікі, густа падбітыя цвікамі, а зверху аздобленыя чорнымі пушыстымі пампонамі; чырвоныя фескі, з прышытай да іх доўгай да самага пояса чорнаю стужкай...

У Афінах, у таверне «Новы кароль» амаль у гэткіх уборах выходзяць на эстраду танцоры з фальклорнага ансамбля...

У любую краіну можна ехаць аднаму, але сюды, у Грэцыю, трэба ехаць з той жанчынаю, якая падабаецца, — толькі з той жанчынаю, цалуючы якую, дакранаешся як да жывой плоці і да яе завушніцаў, пярсцёнкаў, ланцужкоў...

Вандроўную самоту мужчыны зразумеюць паўсюль, але тут, у Грэцыі, — не. Само гэтае неба адпрэчвае ўсялякі пурызм і патрабуе закаханай суладнасці душ і закаханай суладнасці цела.

На акадэмічна статуарным беразе Карынфскага заліва мы адчуем лацінскі дух Іанічнага мора і развеем прывідны спалох аліўкавых дрэў. Спалох перад нашымі паўночнымі халадамі.

ныя, каб гэта опера прагучала ў нашым акадэмічным тэатры. Дык хай бы вы пазнаёміліся?» Я нічога пэўнага не адказаў, пра сябе думаючы: «Ды не, я ўжо столькі паставіў беларускіх опер, можа, больш не брацца, але пазнаёміцца — чаму б не пазнаёміцца? А калі пазнаёміўся з Андрэем, з Вольгай, дык падумаў, што новая работа можа стацца цікавай творча. Андрэй Бандарэнка вельмі самабытны кампазітар, які гаворыць **сваёй мовай,** вельмі моцнай мовай, дзе спалучае адчуванне сучаснага жыцця з мелодыкай, з класічным, нейкім грунтоўным традыцыйным падыходам, чаго вымагае дадзеная тэма. Вольга Іпатава не толькі чароўная жанчына, цікавы літаратар, але і вялікая разумніца і знаўца тагачаснай эпохі. Таму я з цікавасцю ўключыўся ў працу з тым, каб уся паэтыка, закладзеная ў лібрэта, уся музычная драматургія, прапанаваная аўтарам, — каб сыходзілася гэта ў паняцце оперы, вызначанае Вердзі як «сцэнічная музычная драма».

Цяпер, калі закончаны клавір, ідуць прыватныя заўвагі, дапрацоўка, я магу сказаць, што, бадай, мы апраўдаем намер міністэрства ды прагу тэатра, які патрабуе такіх вось твораў сёння. Канечне, гісторыя, памяць, культура мінулага, — гэта ўсё вельмі важнае ў творы. Але самае галоўнае, мне здаецца, што ёсць у «Князі Наваградскім», — вельмі сучасныя сёння тэма здрадніцтва і тэма вернасці.

Праца працягваецца, пастановачная група неяк «абрастае»: у нас ужо ёсць мастак — Дзмітрый Мохаў, добры знаўца сцэны і знаўца гісторыі, і балетмайстар — Уладзімір Колесаў, які цудоўна валодае пластыкай, рытмамі. Раскладка акцёрская пакуль «чарнавая», але магу сказаць, што трупа будзе занятая ўся, тут чатыры ролі жаночыя, астатнія мужчынскія. Вялізная нагрузка ўскладаецца на калектыў хору: у оперы дзейнічаюць і манахі, і баяры, і народ праваслаўны, і паганцы... Зрэшты, я магу яшчэ доўга расказваць...

**А. Бандарэнка.** Калі гаварыць пра пачатак работы — у мяне тое самае: міністэрства прапанавала п'есу. Маўляў, паглядзі, можа, штось цябе прыцягне — оперу напішаш. У мяне многа іншых твораў, звязаных са славянскай старажытнасцю, і мяне вельмі прывабіла ў «Князі Наваградскім» менавіта старажытнасць. У п'есе многа праваслаўных герояў, багата перажыванняў, сугучных маім, агульначалавечае ўвасабляецца ў зусім канкрэтных абставінах, праявах, — усё гэта прывабіла. Вельмі важнай для мяне сталася і праца са старажытнымі праваслаўнымі песнапеннямі — у оперы нямала старонак напісана нават на кананічныя царкоўнаславянскія тэксты...

**В. Іпатава.** Хачу патлумачыць. Для мяне, напрыклад, важным у прапанаванай тэме было менавіта зараджэнне Вялікага княства Літоўскага, агромністага напалу асобы Міндоўга, Войшалка, — прыналежнасць усяго гэтага да беларускай гісторыі для мяне было галоўным, што хацелася падкрэсліць. Андрэй жа схіляўся трошкі да іншай трактоўкі, засяроджваў увагу на вобразе Войшалка, прычым прапаноўваў сваю інтэрпрэтацыю яго. У рэшце рэшт, з ім пагадзілася і я. А справа ў тым, што ў нашай гістарыяграфіі Войшалк пакуль падаецца як такі ж самы, хітры вельмі палітык, як і ягоны бацька Міндоўг. І ягонае праваслаўе — быццам бы таксама працяг палітыкі: ён жа быў воем-язычнікам, пасля стаў манахам, пасля зноў стаў князем. Вось тое, што князь стаў манахам трактуецца як толькі палітычны ход, маўляў, Войшалк схаваўся ў манастыры ад грамадскіх бур. Ды Андрэй пераканаў, што такая трактоўка толькі гаворыць пра нашу духоўную і душэўную глухату, пра недасканаласць нашу ва ўспрыманні духоўных каштоўнасцяў хрысціянства. Мы не можам дапусціць, што чалавек, які праліў шмат крыві, хоча проста звярнуцца да нейкіх вышынь духоўных. Мы абавязкова бачым у гэтым хітрасць нейкую палітычную. І я згадзілася з Андрэем.

**А. Бандарэнка.** І вось, дарэчы, у гэтай трактоўцы — перазовы з сучаснасцю. Бо цяпер вельмі многія людзі, якія да нейкага часу проста не ведалі свету хрысціянскай веры, не ведалі гэтых вышынь, зусім свядома звяртаюцца да хрысціянскіх каштоўнасцяў. У гэтым сэнсе Войшалк ледзьве не сучасны герой.

**С. Штэйн.** Мне падабаецца, як Вольга вызначыла тры дзеі оперы: тры жыцці Войшалка. Гэта вельмі трапна, бо кожнай дзеі адпавядае сваё жыццё. Акт першы — Войшалк-язычнік, які жыве паводле сваіх нейкіх канонаў, пагарджаючы ўсімі, а найперш — народам. Увесь другі акт — гэта сутыкненне героя з жыццём і расчараванне ў многіх пастулатах. Расчараванне ў сям'і, у бацьку; трагедыя любоўная і — самае галоўнае — расчараванне ў веры. Трэці акт: пасля няўдалай спробы скончыць жыццё самагубствам, ацалеўшы дзякуючы манаху Елісею, Войшалк нават мяняе імя — становіцца Васілём. Ён спазнае шматстайны свет, многія рэлігіі, робіцца манахам. Ён шмат дае свайму краю, свайму народу. Але пагаршаюцца справы ў самім Наваградку, і людзі просяць яго вярнуцца на княства... Мінае нейкі час, і Войшалк пакутуе ад таго, што многага не паспеў зрабіць, а ўжо і старасць падступае, і хваробы, ды самая вялікая пакута праз тое, што няма ў яго нашчадка. Неўзабаве прыходзіць да яго чалавек і прапануе парадніцца праз сваю пляменніцу. Паглядзеўшы на тую дзяўчыну, Войшалк успамінае аблічча загінуўшай сваёй каханай — Руты...

**Што далей адбываецца ў оперы, я ўявіла асабліва ярка, бо пасля доўгіх распавядаў, пытанняў, тлумачэнняў была музыка: Андрэй паставіў на пюпітр нотны рукапіс, пайграў і паспяваў менавіта заключныя сцэны оперы. Слухаючы сціплы голас піяніна, спрабавала ўявіць сабе, якімі ж інструментальнымі тэмбрамі «расфарбуе» сваё першае опернае палатно кампазітар: удалая аркестроўка спрые поспеху...**

**А прагнозаў я не люблю, дык і не буду разважаць наконт будучай «беларускай «Хаваншчыны», тым болей, што ў самім параўнанні ёсць пэўны намёк на перайманне чагосьці ўжо вядомага. Канечне, няблага, калі б новая беларуская опера драматызмам падзей, вобразаў, напалам страсцей і ачышчальнай духоўнаю сілаю наблізілася да ўзроўню М. Мусаргскага. Але было б лепей, калі б атрымаўся НОВЫ УЗОР «драмы, пісанай музыкаю», пазначаны трагічнай самабытнасцю беларускай гісторыі. Дык давайце чакаць лепшага?**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# Нададзена Забэйдава імя



**Пры Нацыянальным культурна-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны створана, услед за Аб'яднаннем сяброў польскай культуры, Аб'яднанне сяброў чэшскай і славацкай культур. На ўстаноўчым сходзе выказваліся прапановы надаць новай сябрыне імя кагосьці з тых славутых людзей, чый лёс паяднаны з Чэха-Славаччынай: Ф. Скарыны, У. Жылкі, І. Дварчаніна, Л. Геніюш, М. Забэйды-Суміцкага. Алесь Бажко, Янка Брыль, Аркадзь Марціновіч, Леў Мірачыцкі і іншыя пагадзіліся з тым, каб работа аб'яднання вялася пад «апякунствам» Міхала Іванавіча Забэйды-Суміцкага.**

**Аб'яднанне сяброў чэшскай і славацкай культур будзе даследаваць багемістыку, гісторыю беларускай эміграцыі ў Чэха-Славаччыне, іншыя пытанні культурных узаемасувязяў і, вядома ж, прапагандаваць спадчыну славутага спевака М. Забэйды-Суміцкага.**

**У самой Чэха-Славаччыне нашымі спадкаемцамі згадзіліся быць Вацлаў Жыдліцкі, Міласлаў Зіма, Надзея Кастэцкая... Амерыканка, выкладчыца універсітэта (Калумбус, штат Агайя) Дагмар Волкат падаравала аб'яднанню вялікую выстаўку каляровых фотаздымкаў Чэха-Славаччыны — радзімы яе бацькі.**

**Адно з першых мерапрыемстваў новага аб'яднання — вечар, прысвечаны творчасці М. Забэйды-Суміцкага — адбылося ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Доктар філалагічных навук, дацэнт універсітэта, перакладчыца з чэшскай мовы Ірына Шаблоўская запрасіла на сустрэчу са студэнтамі дырэктара Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР Ганну Сурмач, дацэнта Мінскага радыётэхнічнага інстытута, перакладчыка з чэшскай мовы Івана Шпака, старшага навуковага супрацоўніка Беларускага навукова-даследчага інстытута адукацыі Надзею Батурыцкую, загадчыка рэдакцыі БелСЭ, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР пісьменніка Янку Саламевіча... Прагучалі ўспаміны, інтэрв'ю з Забэйдам-Суміцкім амаль дваццацігадовай даўнасці... Чараваў ягоны спеў, голас — сапраўдны скарб нашай нацыянальнай культуры.**

**Для тых, хто шануе ягонае імя, нагадаю: 21 снежня — дзень памяці Міхала Іванавіча Забэйды-Суміцкага.**

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

з'яўляецца. Скрозь прызму такога стэрэатыпу нармальны чалавек і ўспрымае рэальнае жыццё.

Які ж сацыяльны стэрэатып фарміруецца ў нашай з вамі свядомасці рэгулярным укараненнем у яго песімістычнай ідэі безвыходнасці, бескарысця супраціўлення злу? І каму ж урэшце выгадна, каб усе мы з гатоўнасцю паднялі рукі ўгору — паколькі нам не стамляюцца тлумачыць, што ваяваць усё роўна без толку?

Пакуль яшчэ можна сумнявацца, што наш кінематограф, старанна прапагандуючы міф аб непарушнасці мафіі, свядома выконвае сацыяльны заказ злачынных кланаў — хоць і абсалютна адмаўляць магчымасць падобнага альянсу ў асобных выпадках не адважуся. Хутчэй за ўсё, ён сёння і сам яшчэ не ведае, што творыць, захапіўшыся пагоняй за камерцыйным прыбыткам. Але ўсё-такі добра было б, каб і да аўтараў фільмаў, і да іх гледачоў хутчэй дайшло: мафія неўміручая настолькі, наколькі мы самі ў гэтым упэўнены. Вось і не варта было б гэтую ўпэўненасць бяздумна ствараць і ўмацоўваць.

**В. АМІРАЎ,**
**член Саюза журналістаў СССР.**




**Куды б мне пайсці?..**

Фотаэцюд А. КЛЕШЧУКА.

У доўгай лодцы з адным вяслом, амаль венецыянскай гандоле, на гурбе вінаграднага лісця будзе спаць бронзаваголы кучаравы хлопчык, узброены лукам з вострай стралою напагатове.

Мы разбудзім яго, нават напалохаем сваім нечаканым з'яўленнем, і ён, незадаволены, па-птушынаму імгненна падхопіцца са сваёй выпадковай пасцелі, уздыме над кучаравай галавой не па гадах вялікія крылы і паляціць на захад — у бок элегантнай Італіі.

Гэта Эрот.

У лодцы, на вінаградным лісці, застанецца ягоны лук з вострай стралою напагатове.

Запяюць, здрыгануцца тужліва дзве сцябліны, дзве непадзельныя трысцінкі архаічнага аўлоса, і на ўтульнатаршэрным беразе Карынфскага заліва ўбачым, як сваю будучую немаладосць, старых афінян, сямейнанепадзельных і безыменных для нас — Яе і Яго.

Далёка-далёка ўжо адплыў ад іх беразважны агонь шлюбнага віна, і ўжо зусім блізка, яшчэ хвіліна і наплыве на вочы — ашчаднае святло пахавальнае свечкі.

Але што т о е святло, што т а я свечка, калі старасць для іх — толькі ўзрост, усяго толькі ўзрост, а не стомленасць, не расчараванне і не адчай.

Калі старасць для іх — зярнятка з золата. Так, яно не дасць ужо ніякае рошчы, але ж не пакрыецца і ніякай іржою. І ўсё таму, што Яны — афіняне, што яны грэкі — вечныя дзеці састарэлай без пары Еўропы. І ўсё таму, што Яны шчыра вераць: існуе імгненне, у якое міфы матэрыялізуюцца — робяцца тою шчаслівай яваю, калі вяртаецца малады век зямлі, калі можна ўбачыць жывога Апалона і жывую Касталію, калі можна дакрануцца да чыстага адзення першабыцця.

Дзеля гэтага імгнення яны штогод прыязджаюць у Дэльфы.

Яны адораць нас яшчэ адной радасцю — радасцю старасці.

І мы на старасці прыедзем у Дэльфы і прычакаем імгненне, у якое міфы пераходзяць у яву...

І да нашых ног упадзе сувенірны лісток з геліконскага лаўра...

І вернемся ў Афіны, весела думаючы пра свае апошнія дні, і пройдземся па дыяфанава-вітрыннай вуліцы Асклепіу да кавярні «Дыяна»...

І шчасліва захлынёмся ад каштанавага паху жароўняў, і нават ад незвычлівай сігналізацыі, калі неабачліва дакранёмся да нечага матацыкла, пакінутага на людным тратуары...

І нашы сентыментальна-элегантныя ўспаміны, апранутыя ў чорныя фракі, пададуць нам гарачую каву і па-студзеньску халодную ваду.

І на старасці год, як і зараз, мы знойдзем у Грэцыі лекі, пра якія не ведае фармакалогія.

А пакуль — мы ў небе.

*Беларускі шлях*

# ПРАТАКОЛ

## з'езду беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску 25—27 марца 1917 г.

**Пратакол другога дня з'езду**

У прэзідыум былі выбраны Р. Скірмунт, П. Аляксюк і А. Смоліч.

Ад петраградскіх беларусоў-народнікаў прывітаў з'езд Дубяйкоўскі, жадаючы яму карысьці ў гэтай вялікай працы. К. Душэўскі ад імені моладзі петраградскіх вышэйшых школ таксама шчыра вітаў з'езд.

Далей з'езд перайшоў к дакладам камісій.

I. Даклад агітацыйная камісіі зрабіў А. Смоліч, каторы выказаў глаўныя мэты агітацыі на вёсцы: прасьвету сялянства аб значэньні сучаснага палітычнага мамэнту і арганізацыю сялянства—бо толькі сіла арганізаваная і разумная можа зрабіць вялікую працу,— гэта сельскія вучыцелі, яны самая блізкая інтэлігентная сіла для народу, каторы ёй верыць. У гэтым кірунку і былі прынятыя рэзалюцыі:

1) Бел[арускі] Нац[ыянальны] Кам[ітэт] павінен адразу прыступіць да арганізацыі сялянства і шырэньня палітычнай прасьветы паміж імі, ідучы побач з другімі арганізацыямі, як Мінскі Камітэт прапаганды новага парадку ў вёсцы, і другімі;

2) дзеля гэтага БНК сазывае з'езды сялянскі і вучыцельскі і адкрывае хаўрусы сялянскі і вучыцельскі;

3) арганізуе аддзел раз'ездных лектароў і арганізатараў вёскі;

4) на вучыцельскім з'ездзе падняць справу арганізацыі вёскі;

5) арганізуе каапэратывы;

6) арганізуе пераклад палітычнай літаратуры і пашырае яе сярод шырокіх мас;

7) стварыць фонд прапаганды дэмакратычнага парадку.

II. Ад секцыі друку і выдавецтва даклад зрабіў Жылуновіч (Цішка Гартны). Камісія ўважае, што ўсімі сіламі трэба ўзяцца за выдавецтва беларускай літаратуры, каторая пасьля заняцьця Вільні, дзе друкавалася большая частка кніжак і выходзілі газэты, зусім блізка што разышлася. Па дакладзе гэтай камісіі прынялі такія рэзалюцыі:

1) Выдаваць як найхутчэй газэту беларускага нацыянальнага камітэту;

2) рэдагаваць гэту газэту мае камісія з 5 учасьнікаў, прадстаўнікоў розных партый, выбраных Камітэтам. Хацелася б, каб газэта была штодзённая, але будзе выдавацца па сіле і магчымасьці;

3) супрацоўнікаў рэдакцыі і іх ганарар назначае сам камітэт. Камісія аблічыла прымерную смету на 2.135 руб. у месяц на тыднёвую газэту;

4) поруч з газэтай павінны выдавацца папулярныя палітычныя брашуры;

5) палавіну скарбоначнага збору, каторы быў зроблены ў Мінску і Бабруйску, аддаць на літаратуру Беларускай Сацыялістычнай Грамады;

6) праграму газэты і яеназваньне выробляе сам камітэт;

7) выдаць бібліяграфічны справачнік усіх беларускіх кніжак і прац аб Беларусі ў другіх мовах.

III. Даклад школьнай камісіі зрабіў Б. Тарашкевіч. Дакладчык казаў, што справа школы беларускай адна з самых важных і балючых справаў беларускіх. Камісія добра зразумела ўсю труднасьць гэтага пытаньня і дзеля гэтага бралася да работы. Тыкеля кароткі час не пазволіў зусім добра і падробна развіць усей рэчы, нягледзячы на тое, што ў камісію быў прадстаўлены ўжо загадзя апрацованы матэрыял і пастаўлены пытаньня — што вельмі шмат аблегчыла работу камісіі. Камісія ўся стаяла на тым становішчы, што прынцыпіяльна проціў беларускай мовы ў школе ніякае супярэчкі быць ня можа. Але дзеля таго, што пакуль яшчэ альбо зусім няма добрых падручнікаў, альбо і тыя, што ёсьць, не зусім здатныя да навукі, камісія выпрацавала паступовы пераход на беларускую мову. Апроч падручнікаў, ня менш важнай перашкодай для ўвядзеньня беларускай мовы ў школе — гэта тое, што ў ёй мала вучыцеляў-беларусаў, бо, як паказаў гр. Кахановіч, быўшы інспектар народных вучылішчаў, у такой, напрыклад, Магілеўскай губэрні, чыста беларускай, блізка што скрозь вучыцелі і вучыцелькі велікарусы, каторыя ня ведаюць мовы беларускай. Дзеля ўсяго гэтага камісія стаяла на тым, каб перш-наперш ва ўсе школы, а найбольш у народныя, увясьці дух беларускі, значыцца сколькі магчымасьці старацца, каб у нас вучылі тутэйшыя беларусы, а не велікарусы з глыбокай Расеі, каторыя хоць і родныя нам і блізкія, але мовы і культуры нашай ня знаюць і не ўважаюць. Камісія стаяла на тым, каб заняцца справай падручнікаў і наладзіць беларускія курсы для вучыцялёў — не адкладваючы дзела на далейшы час. Камісія стаяла на тым, каб адразу рабіць добры пачатак. Апрача таго, каб прыцягнуць усіх добрых людзей, што захочуць рабіць для прасьветы нашага яшчэ цёмнага народу беларускага, залажыць таварыства «Прасьвету», запрасіўшы туды як найбольш вучыцельскіх сілаў, а таксама ўсіх грамадзянаў нашага краю, прыязных беларускай справе.

Школьная справа вызвала вельмі жывую супярэчку. Хоць і ўсе згаджаліся на тое, што беларуская мова, літаратура і гісторыя мусіць быць уведзены ў школах, але моцная супярэчка была ў тым, якім парадкам і калі павінна быць гэта зроблена. Пасьля доўгіх і гарачых прамоваў былі даволі згодна прыняты такія пажаданьні і пастановы:

1) Арганізаваць таварыства «Прасьвету» і для гэтага выбраць тымчасовы ўрад: Парэчына, Станкевіча, Лявіцкую, Смоліча і Тарашкевіча. Запрасіць да помачы ў справе арганізацыі Таварыства вядомых дзеячоў: Краскоўскага, Ігнатоўскага, Мігая, Бр. Эпімах-Шыпілу, Іваноўскага, Фальковіча, Максіма Багдановіча;

2) даручыць дэлегацыі да Тымчасовага Ураду, каб яна прадставіла Ураду, што справа кіраваньня прасьветай павінна быць аддадзена ў беларускія рукі;

3) дамагацца, каб у ніжэйшых школах уводзілася беларуская мова, літаратура, гісторыя па меры магчымасці і вучыцельскіх сілаў. Якім парадкам гэта мае быць праведзена ў жыцьцё, павінны судзіць з'езды беларускіх народных вучыцялёў — людзей найбольш блізкіх да гэтай справы;

4) хутчэй выдаць патрэбныя падручнікі;

5) арганізаваць на лета беларускія курсы для вучыцялёў;

УВАГА: апрача мовы, гісторыі і літаратуры беларускай, на курсах павінны быць лекцыі аб тым, што і як трэба рабіць цяперака ў вёсцы. Курсы арганізаваць па магчымасьці хутчэй і не цягнуць доўга, каб не адбіраць ад вёскі яе інтэлігентных сілаў у так патрэбны час.

6) Каб у вучыцельскіх сэмінарыях, а таксама ў духоўных — праваслаўных і каталіцкіх была ўведзена беларуская мова, літаратура, шырэйшае пазнаньне краю і яго гісторыі;

7) дапусьціць у сярэднія школы, там, дзе знайдуцца патрэбныя вучыцелі, беларускую мову і літаратуру як асобны прадмет па сваей ахвоце (факультатыўна). Наогул, у праграме гісторыі і літаратуры зьвярнуць увагу на літаратуру і мову беларускую (западно-русскую) і народную культуру. Пры першай магчымасьці адчыніць у адным з беларускіх гарадоў вышэйшую школу, каторая споўна здаволівала б культурныя патрэбы цэлага краю;

8) шырока развіць зашкольную прасьвету і пашырэньне ўсялякай навукі пры помачы арганізацыі на мяйсцох курсаў, чытаньняў, народных дамоў і іншых прасьветных установаў.

IV. Этнаграфічная камісія, разглядзеўшы пытаньня аб этнаграфічных граніцах Беларусі, прышла да вываду, што такімі граніцамі ёсьць межы рассяленьня беларускага народу, значыцца, у склад яе уходзяць губэрні: Мінская, Гродзенская, Магілёўская, часць Смаленскай і Чарнігаўскай. Дзеля точнага абмежаваньня граніцаў пастанавілі стварыць асобную камісію прафесароў: Любаўскага ( рэкт[ар] Маск(оўскага) ун[іварсытэту]), Доўнар-Запольскага (Кіеў[скі] ун[іварсытэт]), акадэміка Карскага (Петраград) і ак. Шахматава (Петраград). Дзеля таго, што дэпутацыя ад Літоўскага нацыянальнага камітэту зьвярнулася да Часовага Ураду аб тым, што Віленская губэрнія літоўская, як Ковенская і Сувальская, і што ў незанятай часьці Віленскай губэрніі павінна быць уведзена літоўская адміністрацыя, этнаграфічная камісія прэдлажыла з'езду выразіць перад Часовым Урадам пратэст супраць уключэння літвінамі ў склад Літвы ўсей Віленскай губэрніі, заселенай блізка што на 3/4 беларусамі, а ў той часьці, каторая не занята немцамі, заселенай беларусамі скрозь. Такім парадкам, аб назначэньні ў ёй літоўскай адміністрацыі ня можа быць ніякае гутаркі.

З'езд згадзіўся з дакладам этнаграфічнай камісіі.

Дакладчыкам быў рэдактар «Могилевского Вестника» — М. Кахановіч.

[V.] Даклад фінансавай камісіі зрабіў Э. Будзька. Каб можна запраўды рабіць нейкую работу — трэба залажыць нацыянальны фонд і для добрага пачатку дакладчык даў на гэты фонд 2000 ад імені петраградскіх беларусоў. Дакладчык раіў шмат спосабаў, як бы можна было мець грошы для нацыянальнага фонду, а паміж іншымі:

1) стварыць аддзел для арганізацыі беларускага нацыянальнага банку;

2) разаслаць падпісныя лісты ўсім беларускім арганізацыям;

3) старацца дастаць уклады на некаторыя рэчы, як, напрыклад, на арганізацыю сялянства і прапаганду паміж імі новага парадку;

4) каб ня толькі зберагчы грошы, але яшчэ зарабіць, камітэт павінен залажыць друкарню, а таксама тэатр. З'езд з довадамі дакладчыка згадзіўся.

VI. Даклад земскай камісіі зрабіў Стаўпоўскі. Камісія прэдлажыла такі даклад:

Адразу прыступіць да рэарганізацыі земскага самаўпраўленьня на такіх падставах:

1) арганізаваць валасныя камітэты на аснове агульнага выбарнага права бяз розніцы мужчын і жанок;

2) устанавіць лік членаў валаснога камітэта ня менш, чым было выбарных валаснога сходу;

3) на чале валаснога камітэту павінен стаяць урад у складзе: старшыні, 2 членаў і пісара; валасны камітэт выбірае валаснога камісара;

4) арганізаваць павятовыя Земскія Камітэты на аснове прапарцыянальных выбараў ад усіх валасных камітэтаў павету, лічучы па I прадстаўніку ад кожных 40 членаў валасных камітэтаў, з тым адно, каб лік членаў павятовага камітэту быў ня менш, як адзін на валасць з павелічэньнем ліку членаў павятовага камітэту на 10 працэнтаў ад ліку валасцей павету;

5) на чале павятовага земскага камітэту павінна стаяць павятовая земская ўправа ў складзе аднаго старшыні і 5 членаў. Павятовы земскі Камітэт выбірае павятовага Камісара;

6) арганізаваць губэрнскі земскі Камітэт на асновах прапарцыянальных выбараў ад усіх членаў павятовых земскіх камітэтаў.

Дакладчык адзначыў, што ўсё гэта апрацована на скорую руку па недастатку часу, і з'езд пастанавіў прыняць праект камісіі пад увагу, а зацьвердзіў толькі такую рэзалюцыю.

Прызнаючы арганізацыю мяйсцовага самаўпраўленьня на дэмакратычных асновах глаўнейшым пытаньнем сучаснага мамэнту, з'езд лічыць, што канешне адразу выбраць асобную камісію пры Беларускім Нацыянальным Камітэце з учасцем спецыялістаў, каторай і даручыць падробнае апрацаваньне асноваў мяйсцовага самаўпраўленьня ў краі і прыступіць адразу да працы.

VII. Даклад арганізацыйнай камісіі зрабіў П. Аляксюк. Пасьля гэтага дакладу з'езд прыняў такія рэзалюцыі:

1) Беларускі Нацыянальны з'езд лічыць патрэбным стварэньне ў як найбліжэйшым часе «Беларускай Краёвай Рады» ў Мінску;

2) да выбараў у Беларускую Краёвую Раду з'езд павэдлуг патрэбы бярэць на сябе роль вышэйшай краёвай інстытуцыі;

3) Беларускі Нацыянальны з'езд выбірае з сябе Камітэт з 18 асоб, каторы мае называцца «Беларускі Нацыянальны Камітэт»;

4) Беларускі Нацыянальны Камітэт маець:

1) арганізаваць Беларусь у кантакце з Часовым Расейскім Урадам;

2) падгатовіць выбары ў Беларускую Краёвую Раду;

3) весьці прапаганду выбараў у Расейскае Учрэдзіцельнае Сабраньне на прынцыпах фэдэратыўна-дэмакратычнай рэспублікі Расейскай;

4) цяпер жа прыступіць да апрацаваньня канстытуцыі «Беларускага краёвага Ураду» ў кантакце з усімі нацыямі Беларусі і з прапарцыянальным ад іх прадстаўніцтвам;

5) дзеля выканаўчых функцый з складу Нацыянальнага Камітэту выбіраецца прэзідыум з пяці асоб.

У канцы заседаньня Аляксюк прэдлажыў прыняць дэкларацыю з'езду, каторую павінны зложыць перад Тымчасовым Урадам выбраныя з'ездам дэлегаты. З'езд прыняў такую дэкларацыю:

З'езд прадстаўнікоў беларускіх палітычных партый і клясаў, сабраўшыся ў Мінску 25 — 27 марца гэтага году, вітаючы вялікую расейскую рэвалюцыю, прынёсшую нам свабоду і блізкасьць аўтаноміі Беларусі, выражаючы сваю гатоўнасьць падтрымаць Часовы Урад у яго барацьбе з унешнімі ворагамі за свабоду Расеі і яе народаў з прыслужнікамі старога ўраду — перадае спаўніцельную ўладу Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, каторы павінен у кантакце з Часовым Расейскім Урадам арганізаваць Беларусь. Беларускі Нацыянальны з'езд, умацаваны ў шчырым жаданьні нясьці часьць вялікай працы на карысьць вольных народаў Расеі, моцна пераконаны, што яго Нацыянальны Камітэт, кіруючыся да палепшаньня жыцьця ў родным краю, апіраючыся на ўсіх жыхароў Беларусі — прынясе карысьць агульна-гасударственнаму будаваньню на фундамэнце фэдэратыўнага строю дэмакратычна-рэспубліканскай Расеі, аб чым з'езд даручае сваёй дэлегацыі данясьці да ведама Часовага Ураду.

У дэлегацыю да Часовага Ураду выбраны:

1) І. Краскоўскі (упаўнамочаны Саюза Гарадоў Юго-зап. фронту),

2) Р. Скірмунт (дэпутат I Гасудар. Думы),

3) Э. Будзька (член Беларускага Каміт. помачы ахвярам вайны ў Петраградзе, селянін Вілейскага павету),

4) Я. Канчар (упаўнамочаны ад Часовага Ураду па арганізацыі каапэратываў у Мінскай губ.),

5) П. Аляксюк (акончыўшы курс юрыдычных навук),

6) М. Кахановіч (рэдактар «Могилевского Вестника»),

7) І. Касяк (народны вучыцель).

З'езд выказаўся за прылучэньне прадстаўнікоў ад праваслаўнага і каталіцкага духавенства.

У нацыянальны Беларускі Камітэт выбраны:

1) Р. Скірмунт,

2) А. Смоліч — аграном,

3) П. Аляксюк,

4) Л. Заяц (аконч. курс юрыд. навук),

5) Э. Будзька (пабліцыст),

6) У. Фальскі (чыноўнік Ліб[ава]-Ром[енскай] жал. дар.),

7) Б. Тарашкевіч (кандыдат філалогіі),

8) кс. Гадлеўскі,

9) Я. Канчар,

10) І. Краскоўскі,

11) А. Бурбіс (банкаўскі служ.),

12) К. Кастравіцкі (гаспадар),

13) Бабарыкін (вучыцель гімназіі),

14) Ф. Шантыр (прыватны адвакат),

15) М. Кахановіч,

16) В. Іваноўскі (інжынер),

17) Л. Дубяйкоўскі (архітэктар),

18) Д. Жылуновіч (работнік і паэт).

Беларускі Нацыянальны Камітэт мае права каапітацыі, а таксама пашырацца прадстаўнікамі сялянскіх і беларускіх нацыянальных арганізацый.

(У тым парадку, як пры саветах Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў).

Учасьнікі Бел. Нац. Кам. з 18 асоб выбралі прэзідыум з Мінскіх працаўнікоў 5 чалавек:

1) Р. Скірмунта (за старшыню),

2) П. Алексюка

3) У. Фальскага за таварышоў,

4) Л. Зайца (за скарбніка),

5) Б. Тарашкевіча (за пісара).

Старшыні з'езду

КАСТРАВІЦКІ, СКІРМУНТ.

Віцэ-старшыні

АЛЯКСЮК, СМОЛІЧ.

Сакратары

ТАРАШКЕВІЧ, ЗАЯЦ.

Тэкст падрыхтаваў

А. СІДАРЭВІЧ.

Працяг. Пачатак у №№ 47—49.

**Антон ЛЁСІК**

# З ЖЫЦЦЯ ЯЗЭПА ЛЁСІКА

**«Я спяшаўся, покі ёсць сіла, — занесці на паперу тое, што захавалася ў маёй памяці з жыцця брата Язэпа, галоўным чынам, факты біяграфічнага характару, і толькі ў сувязі з гэтым закрануў некаторыя моманты з палітычнай і навуковай дзейнасці яго», — пісаў Антон Юр'евіч Лёсік у невялічкай прадмоўцы да «Успамінаў», якія друкаваліся ў 4, 5 і 6 нумарах часопіса «Новы шлях» за 1944 год. «Успаміны» гэтыя не прэтэндуюць на выкшталцонасць літаратурнага стылю, маюць, напэўна, свае хібы. Але тое і нядзіўна, бо Антон Лёсік не быў адмысловым літаратарам, «жыццяпіс» брата пісаў у сталым веку. Зрэшты, я ўстрымаюся ад каментарыяў. Лепш за мяне гэта зробяць літаратуразнаўцы.**

**Славамір АДАМОВІЧ.**



Язэп Лёсік

ЯЗЭП ЛЁСІК нарадзіўся 6 лістапада 1884 г. у сяле Мікалаеўшчыне Менскага павету, у сям'і селяніна. Ён быў малодшы з сямі братоў і апошняе дзіця ў бацькоў. Як самы малодшы ў сям'і, зразумела, Язэп быў пестуном маці і бацькі, братоў і сёстраў. Маленства Язэпа, значыцца, прайшло для яго добра, без усякіх турбот і асаблівых абавязкаў, бо былі старэйшыя браты, якія выконвалі ўсе гаспадарскія справы; нават не прымушалі Язэпа пасвіць гусі, што звычайна ўскладалася на малых. Язэп жыў вольна і праводзіў час як хацеў. Гэта трэба адзначыць, бо ў далейшым жыцці Лёсіка, бадай што на кожным важным кроку жыццёвага шляху, спатыкалі перашкоды і цяжкі лёс.

Першы раз ён спаткаўся з такімі перашкодамі на экзаменах у Нясвіжскую семінарыю. Нягледзячы на тое, што Язэп быў здольны, добра скончыў народную школу і яшчэ два гады рыхтаваўся да паступлення ў семінарыю, яго ўсё ж такі «зрэзалі» на экзаменах, як у тыя часы гаварылі.

Прычынаю гэтай няўдачы Язэпа міжвольна быў я. Здарылася так, што інспектар народных вучылішчаў Т. з Менску на рэвізіі маёй школы ў Койданаўскай валасці ў 1892 г. зрабіў такі запіс у класным журнале: «Настаўнік не толькі не папраўляў вучняў, калі яны гаварылі па-беларуску, але і сам гаварыў па-беларуску, як прыкладам: «пяць», «чытаць», «хадзіць» і г. д.». Значыцца ў віну мне інспектар паставіў беларускае цеканне і дзеканне, чаго не магла выбіць у семінарскіх выхаванцах ніякая русіфікацыя. Гэты запіс з дырэкцыі народных вучылішчаў пераслалі у Нясвіжскую семінарыю, якую я скончыў. Дырэктар вельмі абурыўся. Гэтаму факту надалі палітычны характар. Раней адносіны дырэктара да мяне як да прыкладнага вучня былі вельмі добрыя.

Пасля прыведзенага факту гэтыя адносіны змяніліся на варожыя. Звычайна, калі адзін брат вучыўся ў семінарыі добра, дык і другі мог лёгка вытрымаць экзамен. Так было б і з Язэпам, каб не выйшла азначанага здарэння са мною. У выніку такога здарэння са мною Язэпа на экзамене «зрэзалі». Русіфікатар-інспектар не мог прадбачыць, што ягонаму сыну давядзецца вывучаць беларускую мову, а ягоным унукам—вучыцца ў беларускіх менскіх школах. Ужо першы крок Язэпа на ягоным жыццёвым шляху сустрэў вялікую перашкоду. Зразумела, гэта вельмі цяжка адбілася на хлопцы, які так імкнуўся да навукі і толькі марыў аб гэтым. У далейшым нечага было думаць пра паступленне Язэпа ў Нясвіжскую семінарыю, трэба было ехаць у другую.

У 1898 г. Язэп без усялякіх перашкод паступіў у Маладзечанскую семінарыю. Але ён быў юнак свавольны, не паддаваўся суроваму семінарскаму рэжыму, часта рабіў сутычкі з настаўнікамі. Такім парадкам у семінарыі Язэп стаўся за непажаданага выхаванца і яго звольнілі з другога класу без права паступлення ў другія навучальныя ўстановы. Таму яму не давялося скончыць семінарыі. Другі раз ён спатыкнуўся на сваім жыццёвым шляху. Калі Язэп вярнуўся з семінарыі дадому, у Мікалаеўшчыну, бацькі, асабліва маці, сустрэлі яго з вялікім жалем і сумам, іх апанавала несупыннае гора, і яны не ведалі, што з Язэпам рабіць, бо ад гаспадаркі ён быў зусім адарваны, а навука яго, на думку бацькоў, была скончана. Аб сваім горы бацькі напісалі мне ў Ноўгарад-Северск на Чарнігаўшчыне, дзе я быў за настаўніка Гарадскога вучылішча. Я напісаў, каб Язэп прыехаў да мяне ў Ноўгарад-Северск вучыцца ў Гарадскім вучылішчы. Паступіў Язэп у апошні клас вучылішча і ў 1902 г. скончыў яго.

Тут ён больш захапляўся чытаннем кніг з бібліятэкі вучылішча. На шчасце Язэпа, бібліятэка ў Ноўгарад-Северскім вучылішчы была вялікая і каштоўная, бо гэта школа пад назовам «Малое вучылішча» заснавалася яшчэ пры царыцы Кацярыне II, калі Ноўгарад — Северск уважаўся за губернскі горад. У бібліятэцы вучылішча меліся ўсе выданні таго часу. Язэп праводзіў у ёй больш часу, чымся трапіў яго на вучэнне.

ДАЛЕЙ я хацеў паставіць Язэпа на той шлях, на якім стаяў сам, і таму меўся рыхтаваць яго да паступлення ў настаўніцкі інстытут. Але для гэтага Язэпу трэ было стаць за настаўніка народнага вучылішча. З гэтаю мэтаю яму давялося пры Ноўгарад-Северскай гімназіі трымаць экзамен на годнасць настаўніка народнае школы. Гэты экзамен ён лёгка вытрымаў, яму далі пасведчанне, што ён мае права быць за настаўніка ў народным вучылішчы. Язэп пажадаў працаваць на Меншчыне, адкуль ён родам. Яго прызначылі выкладчыкам расейскае мовы ў Бабруйскую сельскагаспадарчую школу.

Працаваў ён у Бабруйску толькі адзін год і ў 1903 г. зноў прыехаў да мяне у Ноўгарад-Северск і выказаў жаданне працаваць у Ноўгарад-Северскім павеце.

Яго прызначылі настаўнікам у добрую школу ў мястэчку Грамяч, якое на старой этнаграфічнай карце Беларусі ўважалася, але не зусім правільна, за апошні пункт беларускае мовы (на самай справе беларуская мова гучыць у большай частцы Ноўгарад-Северскага павету і даходзіць з аднаго боку да Чарнігава).

У Грамячы Язэп хутка наблізіўся да народу, зрабіўся для яго вялікім аўтарытэтам і цалкам увайшоў у грамадскае жыццё Грамяча. Надыходзіў 1905 год. У Расіі сталі падымацца хвалі пратэстаў супроць царскага самаўладства.

Язэп, будучы ўжо хлапцом 20 гадоў, вельмі захапіўся палітычнымі справамі і стаў знаёміць з палітычнымі пытаннямі грамяцкіх сялян.

Сяляне збіраліся ў школу, дзе Язэп чытаў ім газеты. Зразумела, што гэтыя зборышчы сталіся ведамымі паліцыі. Паліцэйскія заходзілі ў школу і слухалі, што чытаў Язэп, як ён выясняў сялянству несправядлівасць валодання вялікімі абшарамі зямлі і нястачу зямлі ў сялян і даводзіў да выніку, што неабходна перадаць панскую зямлю сялянству. Такая неасцярожнасць у сваёй палітычнай дзейнасці прывяла да таго, што Язэпа ў 1905 г. арыштавалі і пасадзілі ў Ноўгарад-Северскую турму. Ужо трэці раз спаткаў яго сумны лёс. Тагачасны турэмны рэжым не быў вельмі суровы: дазвалялася прыносіць з волі розныя кнігі і яду.

Праседзеў Язэп у турме больш году і за гэты час прачытаў шмат кніг.

**Арышт Язэпа вельмі абурыў жыхарства Грамяча, бо яго ўсе любілі і шанавалі, і таму ўзнікла імкненне вызваліць Язэпа з турмы. Да мяне ў Ноўгарад-Северск прыйшлі прадстаўнікі з Грамяча з парадаю, як вызваліць Язэпа з турмы. Паводле іхнае прапановы меркавалася, што прыйдзе сялянства з Грамяча да турмы арганізаваным парадкам і патрабуе вызвалення Язэпа з турмы.**

**Але бяручы пад увагу, што такое з'явішча, як падыход да турмы грамадою, забаранялася і таму магло скончыцца стралянінай у грамаду і вялікімі ахвярамі, а не вызваленнем Язэпа з турмы, і што гэта магло павесці да значнага пагоршання далейшага лёсу Язэпа,— зважаючы на гэта, я не толькі не параіў здзейсніць план вызвалення Язэпа з турмы, але нават прасіў гэтага не рабіць. Ды і прадстаўнікі з Грамяча самі пераканаліся, што іх план вызвалення Язэпа не дасягне мэты і не палепшыць ягонага лёсу.**

**Калі маці даведалася, што Язэпа пасадзілі ў турму, то ўдалася ў роспач, бо ні дзяды, ні прашчуры нашы не ведалі такога выпадку, каб хто-небудзь з мікалаеўцаў сядзеў у турме. У Мікалаеўшчыне ніхто не карыстаўся замком, усё дабро было адчынена і нічога не прападала і ніхто ніякай кары не нёс, а тут яе сын Язэп, ды яшчэ ж адукаваны чалавек, — у турме. У галаве сялянскае жанчыны не знаходзілі месца такія, як ёй здавалася, несумяшчальныя рэчы, як ейны сын і турма. Несуцешнае гора паскорыла заўчасную смерць нашай маці.**

**У 1907 г. Язэпа перавезлі на суд у Старадуб на Чарнігаўшчыне. Тут яму ўдалося збегчы з гораду і такім чынам унікнуць суда. Пасля гэтага Язэп некаторы час хаваўся ў Стоўбцах, адкуль напісаў да мяне ліст з просьбаю выслаць яму сто рублёў, каб ён мог выехаць за граніцу.**

**Я выслаў сто рублёў і пасля таго колькі месяцаў не меў ад яго ніякіх вестак, і таму думаў, што Язэпу ўдалося выехаць за граніцу. Але нечакана я атрымаў ліст ад старэйшага брата — начальніка ст. Красноўка, недалёка ад Лугансну на Украіне. У тым лісце брат пісаў, што да яго з Пецярбургу прыехаў Язэп з вялікай колькасцю кніжак.**

**У Красноўцы Язэп пражыў каля двух гадоў. Тут ён галоўным парадкам займаўся чытаннем купленых кніжак. Але далей заставацца нельга было, бо чыгуначны жандар пачаў браць увагу на маладога чалавека без асаблівых занятках. А між тым да мяне ў Ноўгарад-Северску часта заходзілі паліцэйскія і наводзілі даведкі, дзе Язэп. Гэтае наведванне было часта яшчэ і таму, што я жыў пад наглядам паліцыі, бо як дэпутат працоўнай групы сялянства ў 2-й Дзяржаўнай Думе быў звольнены з настаўніцкай пасады, прычым працаваць у школе было забаронена. Пры такіх умовах Язэпу да мяне ў Ноўгарад-Северск нельга было прыязджаць, але і заставацца ў Красноўцы таксама было небяспечна і немагчыма.**

Не зважаючы на мой стан у Ноўгарад-Северску, Язэп у 1911 г. з Красноўкі прыехаў да мяне, бо хавацца далей было цяжка, тым больш, што ў яго не было чужога пашпарту. Зразумела, што ў Ноўгарад-Северску яго хутка арыштавалі і зноў перавезлі ў Старадуб на суд. Цяпер суд вынес значна цяжэйшае пакаранне за тое, якое магло быць у 1907 г. (За такія справы, у якіх абвінавачваўся Язэп, у 1907 г. засуджалі да двух-трох гадоў зняволення). Цяпер Язэпа прысудзілі да бестэрміновага высялення ў Сібір, дзе ён жыў да канца царскага самаўладства, да 1917 г., спачатку ў г. Кірэнску Іркуцкай губерніі, а потым у некаторых сёлах Кірэнскага павету. Нядоўгі час Язэп жыў у Бадайбо.

БУДУЧЫ Ў ССЫЛЦЫ, Язэп заняўся самаадукацыяй. З гэтаю мэтаю я высылаў яму падручнікі па розных прадметах. Значнай дапамогі на сваё існаванне ад мяне Язэп не мог атрымаць, бо я быў беспрацоўным і жыў прыватнымі ўрокамі, і таму ён здабываў сродкі на сваё існаванне фізічнаю працаю, і толькі ў Бадайбо быў за пісца, а ў адной вёсцы арганізаваў пачатковую школу, але паліцыя хутка яе зачыніла, бо ў ссылцы ў тыя часы забаранялася працаваць паводле сваёй спецыяльнасці: настаўнік ці доктар маглі ўсё рабіць, толькі першы не вучыць, а другі — не лячыць.

У ссылцы Язэп жыў разам з сябрамі ў няшчасці—з іншымі палітычнымі. Аднаму з такіх сяброў удалося нелегальна прыехаць у Ноўгарад-Северск, дзе была ягоная радня.

Апавядаючы мне аб жыцці Язэпа ў ссылцы, ён між іншага дабавіў жартуючы, што Язэп ужо атрымаў медаль... бульбяны, бо ён добры кухар.

У Сібіры Язэп сустрэўся з Алесем Гаруном, з якім потым не разлучаўся. Язэп прыслаў мне фотакартку, на якой былі зняты ён з Алесем Гаруном. На жаль, гэта картка згарэла ў Менску ў часе вайны.

Адарваны ад сваёй бацькаўшчыны, Язэп трымаў цесную лучнасць з ёю.

Ён супрацоўнічаў у «Нашай Ніве» і з далёкага чужога краю пільна сачыў за тым, што рабілася ў краі родным, аб чым можна было меркаваць з тых лістоў, якія ён прысылаў мне ў Ноўгарад-Северск (лісты гэтыя таксама згарэлі).

Часам прысылаў мне адкрытыя лісты з узорамі старога беларускага пісьменства 16—17 стагоддзяў. Ён падтрымліваў сувязь з пісьменнікамі і знаёмымі настаўнікамі на Беларусі. Але сведамым, ідэйным нацыяналістам ён стаў яшчэ на семінарскай лаве. Калі Я. Лёсік вярнуўся да мяне з семінарыі ў Ноўгарад-Северск, дык прывёз з сабою колькі сшыткаў тагачасных беларускіх твораў, якія хадзілі ў спісах па руках, як прыкладам, «Тарас на Парнасе», «Гапон», «Гутарка Паўлюка», і шмат паасобных вершаў. Ён любіў іх часта дэкламаваць мне і сябрам па школе, а са мною звычайна гаварыў па-беларуску.

З Сібіры Язэп вярнуўся на Беларусь у 1917 г. і спыніўся ў Менску.

У перыяд ад 1917 да 1923 г. сувязь з Язэпам была слабая, а часам зусім перарывалася, бо спачатку праз Менск праходзіў Заходні фронт, а далей вайна з Польшчаю.

У МЕНСКУ Язэп Лёсік стаў палітычным дзеячом. Ён выступае на сялянскім усебеларускім з'ездзе за справу бацькаўшчыны, за нацыянальную сведамасць, за родную мову, за адраджэнне Беларусі.

Ён быў сябрам, а потым і старшынёю Усебеларускай Рады, якая выдала закон пра незалежнасць Беларусі і арганізацыю Беларускай Народнай Рэспублікі.

Калі ўсталявалася савецкая ўлада на Беларусі, бальшавікі арыштавалі Язэпа, як беларускага дзеяча, аб чым паведаміла мне ягоная жонка, дачка Ядвігіна Ш. Я тэлеграмаю ў Аддзел Асветы прасіў прыняць захады да вызвалення Язэпа з-пад арышту. Але з гэтага нічога б не выйшла, каб не ўзняў свайго голасу Ігнатоўскі. На гэты раз Язэпа неўзабаве вызвалілі. Як ён потым мне перадаваў, за ягонае вызваленне рашуча хадаўся Ігнатоўскі, які заявіў: «Калі не вызваліце Лёсіка, дык саджайце мяне».

Навуковая і педагагічная дзейнасць Язэпа ў Менску добра ведамая, бо ад ягонае працы засталася вялікая спадчына. Ён выдаваў газету «Вольная Беларусь», пісаў у шмат якіх часопісах, складаў граматыкі і правапіс, чытаў лекцыі ва Універсітэце і адначасна быў за выкладчыка беларускае мовы на курсах беларусаведы, якія адбываліся ва ўсёй Беларусі. Гэтая ягоная праца была, бадай што, найкаштоўнейшая для таго часу, бо тут ён выступаў як прапагандыст беларускае справы, што вельмі спрыяла развіццю нацыянальнай сведамасці сярод жыхарства Беларусі.

**За дзейнасць сваю ў Менску, якая праходзіла не больш як дзесяць гадоў, Язэп зрабіў вельмі многа. Ён, стоячы на варце чысціні беларускае мовы, актыўна ўдзельнічаў у тэрміналагічнай камісіі Інстытуту Беларускае Культуры, пры гэтым па розных прадметах і ўстанавіў граматычную тэрміналогію. Ён пісаў граматыкі беларускае мовы для школ і тэхнікумаў, бо «Беларуская граматыка для школ» Тарашкевіча была занадта малая і не высвятляла ўсіх фактаў і законаў беларускае мовы.**

**Для школ Я. Лёсікам была складзена «Школьная граматыка». Для тэхнікумаў напісаны ў навуковым асвятленні «Фанетыка», «Марфалогія», «Сінтансіс», пры чым «Сінтаксіс» Я. Лёсік напісаў першым і самастойна, бо да яго не было сінтаксісу беларускае мовы. Тарашкевіч гэтага пытання не закрануў. Граматыкамі Я. Лёсіка карысталіся і вышэйшыя ўстановы.**

---

Матэрыял друкуецца з захаваннем стылю аўтара і з нязначнымі скарачэннямі.

**Калі ўспомніць усё тое, што зрабіў Язэп за кароткі час для беларускае справы, то трэба здзіўляцца ягонай энергіі і працаздольнасці. Пры такой сваёй кіпучай дзейнасці, ён яшчэ знаходзіў час пісаць артыкулы ў штодзённым друку і ў часопісах.**

**Апроч таго, не атрымаўшы нават сярэдняй асветы, Язэп самаадукацыяй дасягнуў таго, што паводле свайго разумовага развіцця і веды ён стаяў на ўзроўні тых, хто скончыў вышэйшую асвету. Але ўзяўшыся за працу над развіццём беларускае мовы, Язэп адразу адчуў, што ў галіне філалогіі яму трэба працаваць вельмі шмат, каб быць на ўзроўні сучаснага мовазнаўства. Ён дастае навуковыя працы ў галіне беларускае мовы і народнай творчасці, а таксама расейскія кнігі ведамых філолагаў.**

**Праседжваючы цэлыя ночы над вывучэннем філалагічных навук, Язэп дабіўся ў гэтай галіне вялікіх поспехаў і мог уважацца за сапраўднага моваведа. Для сучаснае беларускае мовы за колькі гадоў Язэп адзін зрабіў гэтулькі, колькі не маглі зрабіць дзесяткі іншых. Натхняла яго ў гэтай працы асаблівая любасць да беларускае мовы. Аднойчы ён сказаў мне: «Калі я праходжу па вуліцах Менску і чую беларускую мову, то слухаю яе, як музыку».**

**Што зрабіў Язэп на карысць беларускае мовы, гэта патрабуе асаблівага даследвання, бо ягоныя працы сустракаюцца ў шмат якіх часопісах, газетах, у працах Інстытуту Беларускае Культуры і Акадэміі Навук. Калі Інстытут Беларускае Культуры быў рэарганізаваны ў Акадэмію, Язэп Лёсік атрымаў годнасць акадэміка і гэта было зусім заслужана.**

Дзякуючы такой дзейнасці, Язэп Лёсік стаў самым ведамым чалавекам на Беларусі і гэта было адной з галоўных прычын праследвання яго з боку бальшавікоў, бо ўсякага, хто падымаўся занадта высока, бальшавікі звычайна апускалі так нізка, што ад яго і следу не заставалася.

Здавалася б, што дасягнуўшы такой папулярнасці на ўсёй Беларусі, Язэп адчувае сябе вельмі добра і таму мяне надта здзівіла, калі на мой ліст, у якім я прасіў напісаць, як ён жыве і адчувае сябе ў бальшавікоў, Язэп адказаў: «Жыву, як мыш пад мятлою». Гэтай характэрнай беларускай прыказкай ён даў зразумець, у якіх умовах яму даводзіцца жыць і працаваць. Калі ўзяць гэта пад увагу, дык яшчэ больш трэба здзіўляцца таму, якую сілу волі меў Язэп, каб праяўляць кіпучую дзейнасць пры такіх умовах, калі жыў, «як мыш пад мятлою».

Так адчуваў сябе Язэп у той перыяд бальшавіцкай улады, калі яшчэ не пачынаўся націск на беларускіх дзеячоў і беларускую культуру. Тады на чале ўлады стаялі Чарвякоў і Язэп Адамовіч — шчырыя прыхільнікі беларускіх справаў. З боку партыйных колаў таксама не адчувалася яшчэ асаблівага націску. Але калі меркавалася надаць Язэпу Лёсіку годнасць прафесара, дык гэта не ажыццявілася выключна з прычыны ягонага палітычнага светагляду.

Гэты націск быў зроблены з боку партыйных колаў. Усё ж трэба ўважаць, што да 1927 году яшчэ бларускія дзеячы мелі магчымасць рабіць усё тое, што яны ўважалі за карыснае для дабра Беларусі і беларускага народа. Наяўны яшчэ націск з боку партыйных колаў на беларускую культуру і ейных дзеячоў пачаўся з часу Акадэмічнай канферэнцыі ў лістападзе 1926 году. Абвінавачванні былі рознага характару. З аднаго боку было незадавальненне камісарам асветы Баліцкім, што ён без узгаднення з цэнтральным партыйным камітэтам зрабіў даклад аб стане асветы ў савецкай Беларусі перад вучонымі замежных краін, бо на канферэнцыі былі філолагі з Нямеччыны, Літвы, Латвіі і Польшчы. Незадаволеныя былі нават упрыгожаннем залі, у якой адбывалася паседжанне канферэнцыі: упрыгожанне было ў чыста беларускім стылі. Ніякіх бальшавіцкіх лозунгаў не было. Нават не было партрэта Леніна. Хоць гэты партрэт знялі і паставілі ў такім мейсцы, у якім яго было не відаць, але абвінавачвалі кіраўніцтва канферэнцыі ў тым, што партрэт Леніна быў выкінуты з залі на падлогу. Далей абвінавачвалі кіраўніцтва канферэнцыі ў тым, што было выдадзена на прыём членаў канферэнцыі і гасцей 3000 руб., што паводле таго часу складала вялікую суму. Гэты ўдала арганізаваны вечар зрабіў вельмі добрае ўражанне на замежных гасцей.

Калі гэта рабілася, то і партыйныя колы мелі на ўвазе асаблівую ўрачыстасць канферэнцыі, але пасля шырока разгорнутай працы яе яны схамянуліся, бо гэтая канферэнцыя паказала кіруючым партыйным колам, на якую вышыню падымаецца беларуская культура і беларуская справа наагул, а гэта зусім не ўваходзіла ў планы бальшавізму, які імкнуўся знішчыць нацыянальную культуру, і таму праца Акадэмічнай Канферэнцыі ў гэтых колах выклікала нерапалох. Вось чаму Акадэмічная Канферэнцыя, якая ўзняла беларускую справу на такую вышыню, зрабілася тым выходным пунктам, адкуль пачаўся пераслед беларускіх дзеячоў, беларускае культуры і ўсёй беларускай справы.

З ГЭТАГА ЧАСУ партыйныя колы сталі збіраць матэрыялы супроць беларускіх дзеячоў і ў асаблівасці супроць Язэпа Лёсіка.

Знайшліся партыйныя «філолагі», якія даводзілі, што Язэп Лёсік не садзейнічаў развіццю беларускай мовы, а псаваў яе, нават дайшлі да такой бязглуздзіцы, што абвінавачвалі яго ў сведамым псаванні мовы, бо ён пісаў толькі па-беларуску і ўжываў толькі беларускія словы і формы, а ўхіляўся ўжываць словы расейскія. З'явіліся ў друку наспех зляпаныя без усякага абгрунтавання артыкулы аб тым, як псаваў беларускую мову Язэп Лёсік і ягоныя сябры. Пайшоў моцны націск на беларускую культуру наагул. З другога боку пайшлі абвінавачванні і за палітычны светапагляд Язэпа. Але бальшавікі не ведалі яшчэ, што Язэп быў за сябра Беларускае Рады, якая была створана ў 1918 г., не ведалі, што ён пісаў супроць бальшавікоў у беларускім друку, бо ўсе такія выданні былі захаваныя, але, на вялікі жаль, захаваныя нядобра і ляжалі ў нізе бібліятэчных шафаў.

У бальшавіцкім друку 1927—29 гадоў сталі з'яўляцца шматлікія артыкулы супроць Язэпа і ягоных сяброў дзейнасці: Сцяпана Некрашэвіча, Смоліча, Ластоўскага і др.

Усіх беларускіх дзеячоў сталі называць нацыянал-дэмакратамі, або скарочана «нацдэмамі» і гэта слова ў бальшавікоў стала ганебным, бо пад гэтым словам яны разумелі «ворагаў народу», за якіх уважалі ўсіх, хто не спяваў дыфірамбаў бальшавізму.

Беларускіх дзеячоў абвінавачвалі ў тым, што яны нібыта імкнуліся прадацца панскай Польшчы, але да трасенняў на кватэрах у бальшавікоў было яшчэ мала абвінаваўчага матэрыялу. Толькі ведалі бальшавікі, што Язэп Лёсік, як і ягоныя сябры, быў супроць бальшавіцкай улады.

У 1930 г. Язэп Лёсік у канцы ліпеня быў нечакана арыштаваны на курорце ў Мацэсце (на Каўказе), дзе ён лячыўся ад ішыясу: ужо два гады не мог ён хадзіць без палкі.

Закончыць курс лячэння яму не далі, яго з Каўказу арыштаваным прывезлі у Менск і пасадзілі ў турму ГПУ, так званую «амерыканку». Аднachасна з яго арыштам у ягоным доме пры Гашпітальнай вуліцы трэслі. Пачалі трэсці а 10 гадзіне ўвечары і трэслі аж да 8-ай гадзіны раніцы. Спачатку зайшліся да мяне (я жыў у доме Язэпа) і прымусілі мяне быць за сведку пры вобыску брата.

Вобыск быў гэткі старанны, што літаральна не засталося нічога на кватэры, на гары і ў халодных пабудовах, чаго б не зачапілі агенты ГПУ. Нават разабралі на паасобныя часткі маленькі, але высокі вытачаны столік і чагосьці шукалі ў тых круглых вытулінах, якія былі у мясцох, дзе столік звінчваўся. Ні Язэпу, ні каму другому і ў галаву не прыходзіла, што гэты столік разбіраецца.

Асаблівую ўвагу бралі на ўсё тое, што напісана рукою. Уся перапіска Язэпа, як асабовая, так і службовая і ўсякія другія рукапісы былі забраныя. З бібліятэкі ўзятыя кнігі старых выданняў і ўсе старыя часопісы і газеты, у тым ліку і тыя, якія друкаваліся пры нямецкай і польскай уладах.

Апошняе было горш за ўсё, бо з гэтых выданняў бальшавіцкі пракурор знайшоў шмат абвінаваўчага матэрыялу. У гэтых выданнях знайшлі артыкулы Язэпа супроць бальшавікоў.

Было ўзята гэтулькі матэрыялу, што давялося везці на кані.

Беручы пад увагу, што ў гэтую ноч рабіліся арышты ўсіх дзеячоў і вобыскі ў іх, зразумела, якую вялікую колькасць абвінаваўчага матэрыялу знайшлі бальшавікі супроць беларускіх дзеячоў.

У часе вобыску адбылося непрыемнае для агентаў ГПУ здарэнне. Якраз у гэты вечар ішла ў тэатры такая пастаноўка, у якой патрэбна была страляніна ў гарадскім садзе, недалёка ад кватэры Язэпа. Гэта страляніна так напужала тых, хто рабіў вобыск, што яны прыпынілі сваю «працу». На спалоханых тварах відаць было, што агенты ГПУ палічылі страляніну ў тэатральнай пастаноўцы за адкрытае выступленне прыхільнікаў беларускіх дзеячоў, якіх у гэты час арыштоўвалі і якіх трэслі.

Дзесяткі бальшавіцкіх следчых і пракурораў «працавалі» над здабытым матэрыялам для абвінаваўчага акту. Гэты акт ГПУ «змайстравала» ўжо ў кастрычніку. Ён быў надрукаваны ў газеце «Звязда» і ў той жа дзень, калі быў апублікаваны матэрыял, далі загад па прафесіянальных саюзах збірацца ў дом Асветы на мітынг. Гэта быў адзін з метадаў бальшавіцкай агітацыі. На мітынгу выступалі партыйныя бальшавікі: рэдактар «Звязды» Будніцкі і Валабрынскі з цэнтральнага камітэту партыі.

**Якіх толькі паклёпаў не ўзводзілі гэтыя брахуны і на галовы беларускіх дзеячоў і якімі ганебнымі імёнамі не называлі іх! Асаблівы напад рабіўся на Язэпа Лёсіка. Агонь, што называецца, быў накіраваны супроць Язэпа, і цэнтрам усёй увагі гэтых прыспешнікаў ГПУ быў Язэп Лёсік: з яго пачыналася і з яго канчалася.**

**Вельмі здзекваўся з Язэпа Валабрынскі. Ён насміхаўся нават з таго, што Язэп камусь калісь сказаў: «Я вельмі жадаю, каб каля хаты кожнага беларуса былі садок і кветнік, а сама хата была добрая, светлая і чыстая».**

**Гэтыя словы Язэпа палічылі за «кулацкія» імкненні.**

**І ўсе гэтыя здзекі і кпіны рабіліся смакуючы і з асаблівай зларадасцю.**

**Цяжка гэта ўспамінаць, бо было вельмі прыкра і агідна слухаць, як змешвалі з гразёю вялікія імкненні беларускіх дзеячоў, палкіх патрыётаў, якія аддалі ўсе свае сілы, а некаторыя і жыццё на карысць сваёй бацькаўшчыны.**

**На мітынгу была адмысловая брахня ад пачатку да канца. Дагаварыліся да таго, што іх называлі здраднікамі. Але каму яны здрадзілі?**

**Галоўныя абвінавачванні былі лжывымі і прыдуманыя следчымі і пракурорамі-паслугачамі ГПУ.**

**Так беларускіх дзеячоў абвінавачвалі ў тым, што яны імкнуліся далучыць Беларусь да панскай Польшчы і з гэтаю мэтаю зносіліся і трымалі лучнасць з Віленскім цэнтрам і што ўжо быў складзены спіс будучых міністраў Беларусі, прычым Язэпу Лёсіку прапанавалася пасада міністра асветы. На самой жа справе ў часы бальшавіцкай улады яму зусім не было часу думаць і рабіць што іншае, апроч працы над падручнікамі беларускае мовы для школ, над беларускім правапісам і ў дабавак — чытанне лекцыяў ва Універсітэце і Педагагічным Тэхнікуме і на розных курсах. Сюды трэба аднесці яшчэ працу ў штодзённым друку і ў часопісах. Але бальшавікам трэ было змайстраваць тэатральны працэс, падобны да працэсу ў Маскве над так званымі «шкоднікамі» і «ворагамі народу».**

**На падобных працэсах тыя, каго абвінавачвалі, пад прымусам і катаваннем узводзілі на сябе ўсялякія паклёпы і абвінавачвалі сябе ў тым, у чым яны былі зусім невінаватыя. Гэтага дабівалася ГПУ зрабіць і ў Менску. (...)**

У лютым 1931 г. прадбачыўся судовы працэс над беларускімі дзеячамі, але прайшоў люты, прайшоў сакавік, а працэсу не ўдалося зрабіць. У канцы красавіка сталася ведама, што ўсе беларускія дзеячы ў адміністрацыйным парадку будуць высланыя з Беларусі. Так і было зроблена. Язэпа Лёсіка выслалі на пяць гадоў у Саратаўскую губерню ў г. Аткарск на Волзе. Тут яму было дазволена працаваць у педагагічным тэхнікуме, дзе ён выкладаў расейскую мову і літаратуру. Потым Язэп перайшоў у такі ж тэхнікум у Дубоўцы, таксама на Волзе. Жыў ён там у матэрыяльных адносінах нядрэнна і толькі ў першы год атрымоўваў некаторую дапамогу ад родных. Калі скончылася пяць год ссылкі, Язэп думаў, што можна будзе вярнуцца на Беларусь. З гэтаю мэтаю ён у 1935 і 1936 гадах прыязджаў у Менск і быў у НКУС, але як і трэ было думаць, нічога не дабіўся: яму і пасля пяці гадоў высылкі не дазволілі жыць на Беларусі.

Мяне цікавіла, якім чынам ён падпісаўся пад такім абвінаваўчым актам, калі за сабою такой віны не адчуваў. Беручы пад увагу, што было сурова забаронена пад пагрозай пакарання смерцю гаварыць аб тым, як адбываліся ў бальшавікоў выпыты, Язэп на гэтую тэму не гаварыў, толькі сказаў: «Калі б падалі мне падпісаць свой смяротны прысуд, то я падпісаў бы».

У АПОШНІ РАЗ бачыў я Язэпа ўлетку 1936 г. Ён значна ўзмацнеў, хадзіў без палкі і выглядаў зусім здаровым. Відаць, стэповы волжскі клімат быў на карысць ягонаму здароўю, і ў той час ніяк нельга было думаць, што праз два гады ён можа памерці.

Працаваў Язэп у ссылцы таксама напружана, бо прыйшлося выкладаць ужо расейскую мову і літаратуру. Ён і там карыстаўся вялікім аўтарытэтам і пашанаю як з боку настаўніцкага складу, так і з боку студэнтаў, якія з глыбокім жалем праводзілі яго, калі ён пераходзіў у другі педагагічны тэхнікум.

Не адчуваючы ў ссылцы матэрыяльнай нястачы, ён вельмі адчуваў адарванасць ад роднае глебы, ад сваёй дарагой для яго бацькаўшчыны, ад роднай прыроды і ўсяго роднага і сумаваў аб гэтым. Гледзячы на безлясныя стэповыя роўнядзі волжскага саратаўскага краю, Язэп Лёсік з вялікім сумам пераносіўся на далёкую радзіму, на родныя палеткі, у сасновыя лясы і зялёныя гаі. Перад ягонымі вачыма заўсёды ўставалі прыгожыя малюнкі роднага краю, беларуская вёска з яе жыхарамі, лясы і пералескі, рэчкі і вазёры і ўсё тое, у чым ён быў так замілаваны.

І здавалася яму, што ён чуе і мілагучную беларускую мову, якую ў Менску «слухаў як музыку». Асабліва было яму цяжка пераносіць высылку з Беларусі і ягонае сям'і. Змагаючыся за чысціню беларускае мовы, жывучы на Беларусі, Язэп і ў сваёй сям'і ахоўваў беларускую мову ад засмечвання расейшчынай і таму не любіў, калі да ягоных дзяцей заходзілі другія дзеці, якія гаварылі па-расейску. А ў ссылцы дзецям Язэпа прыйшлося вучыцца па-расейску, а потым і быць за настаўнікаў у расейскіх школах. Страціўшы надзею вярнуцца на Беларусь, Язэп стаў імкнуцца хоць наблізіцца да яе. Выпадкова ён сустрэўся з навуковым працаўніком з Бранску, які адразу ўбачыў у Язэпе значную навуковую сілу і таму прапанаваў яму перавесціся ў Бранск, значыцца, бліжэй да Беларусі. Язэп гэтую прапанову прыняў з вялікай радасцю.

У Бранску яму не ўдалося знайсці падыходзячага становішча і яго накіравалі ў Навазыбкаў, дзе прапанавалі становішча настаўніка ў школе каля станцыі Злынка. Гэта было ў 1936 г. Ад Злынкі недалёка да Гомеля і таму Язэп з сям'ёй часта ездзіў у Гомель, каб паглядзець беларускія тэатральныя пастаноўкі і хоць такім чынам адчуць сваю блізкасць да роднай Беларусі. Але Язэпу не давялося тут закончыць і навучальнага году. НКУС патрабаваў неадкладнага выезду туды, куды быў высланы, г. зн. зноў у Саратаўскую губерню, дзе ён пражыў пасля гэтага не больш двух гадоў.

Наведванне Язэпам Менску, пераселенне ў Злынку, бліжэй да Беларусі, а галоўнае — зварот у НКУС з просьбаю дазволіць яму жыць на Беларусі—усё гэта павяло да таго, што НКУС не спускаў з яго вачэй і заўсёды меў яго на ўвазе.

Нязначны выпадак сутычкі аднаго камсамольца-студэнта з Язэпам на педагагічным грунце — з прычыны дрэннай адзнакі — прывёў да таго, што знайшлі прычэпку, зрабілі лжывы данос на яго ў справе працы ў педагагічным вучылішчы. А гэта было ў часы яжоўшчыны, калі ў Менску рабілі вялікія арышты ўсіх, хто меў хоць якое-колечы дачыненне да беларускае справы. У 1938 г. Язэп зноў быў арыштаваны і пасаджаны ў саратаўскую турму. У гэты час ён быў зусім здаровы і нельга было думаць, што незабаве памрэ. Але не прайшло больш году, як жонка атрымала паведамленне, што Язэп памёр.

Загадка ягонай смерці ў саратаўскай турме крыху высветлілася, калі аддалі жонцы тое з адзежы, што засталося ад Язэпа. У гэтым ліку аддалі і гнілыя камашы. Калі рамень мог згнісці, значыць Язэп сядзеў у якойсь мокрай камеры, відавочна з мэтаю барзджэй звесці яго з гэтага свету. Магчыма, што ад такіх цяжкіх турэмных умоў вярнулася ягоная старая хвароба, якая пры адсутнасці дапамогі давяла да смерці, а магчыма адбылося і што горшае.

Паміраў Язэп Лёсік пры вельмі цяжкіх абставінах: у турэмнай камеры, у выгнанні, на чужыне, без родных і знаёмых і далёка ад дарагой для яго радзімы, за якую ён аддаў сваё жыццё. Апошнія дні жыцця Язэпа засталіся таямніцаю, як таямніцаю засталася і ягоная магіла, бо дзе пахаваны Язэп Лёсік, жонка і дзеці не маглі даведацца.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне сакратару Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Івану Аношкіну з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

# З дыярыуша Філона Тутэйшага, студыёзуса з Менску

**(Філалагічныя фантазіі канца XX ст.)**

Мова персанажаў Дуніна-Марцінкевіча простая, як і само жыццё.

Дунін-Марцінкевіч напісаў «Гутарку старога дзеда». Гэта быў ананімны твор.

Дуніна-Марцінкевіча падтрымлівалі такія польскія літаратары, як А. Міцкевіч, А. Мальдзіс.

Буйнейшымі даследчыкамі жыцця і творчасці Дуніна-Марцінкевіча з'яўляюцца Карскі, Язэп Янушэўскі, Мальдзіс, Гамбола.

Дунін-Марцінкевіч з'яўляецца героем у творы Навума Прыгаворнага «Ідылія».

Дунін-Марцінкевіч у вобразе Навума Прыгаворкі намаляваў сябе.

Дуніна-Марцінкевіча некаторыя лічылі нават бацькам Навума Прыгаворкі.

«Сельская ідылія» — гэта лібрэт.

Дунін-Марцінкевіч — перваначальнік беларускай мовы. Ён распрацаваў беларускую мову і фальклор.

●

Вярыга-Дарэўскі хацеў ведаць, за што яго паважаюць. (Пра «Альбом»).

Праблематыкай «Тараса на Парнасе» з'яўляецца адлюстраванне сходу, які павінен адбыцца на гары.

Псеўданім Каліноўскага — Яська з-пад шыбеніцы.

Каліноўскі — гэта Саўка з-пад...

«Ліст з-пад Абуховіча» К. Каліноўскага.

«Вока з-пад шыбеніцы».

Каліноўскі быў вучнем Чарняхоўскага і Серакоўскага.

Каліноўскі хацеў, каб беларускія сяляне былі здаровыя і негалодныя.

У дваццацішостым узросце ён быў пасаджаны ў турму, напісаў пісьмо да продкаў.

Марыська — гэта жывая жанчына, у якой жыў Каліноўскі пасля паражэння паўстання.

●

Псеўданім Ф. Багушэвіча — Сымон Рэўка з-пад Баранавіч.

Ф. Багушэвіч выкрываў у сваіх вершах збяднелае сялянства.

З таго часу яго крокі ідуць як бы наперад.

Гора пераапранутае ішло за ім. Яно паказваецца ў розных позах.

Ф. Багушэвіч быў як паэтам, так і лірыкам.

Ім паказаны непрыстойныя малюнкі прыгоннай вёскі.

Гэтая размова з кабылай адна з лепшых старонак беларускай дэмакратычнай літаратуры.

Народнікі — гэта людзі, якія вучыліся ў Віленскім універсітэце. Народнікі як бы стварылі свой гурток.

Пры вучобе ў Віленскім вучылішчы Гурыновіч адчуў уплыў навуковага камунізму.

З гэтага ўсяго і праісходзіць у іх заваруха.

●

Цётка — заснавальніца батлейкі.

Творчасць Цёткі — пераваланы этап паміж творчасцю Багушэвіча і Купалы, Коласа.

Псеўданім Цёткі — Канстанцыя Буйло.

Верш Цёткі «Хрыстос нараджаецца».

Зборнік Цёткі «Хрэст на рэвалюцыю».

Апавяданне «Прысяга над крывавымі далонямі».

«Прысяга над крывавымі азёрамі».

Паўліна Мядзёлка — гэта псеўданім Цёткі.

●

На паэзію Купалы аказалі ўплыў Мацей Бурачок і Ф. Багушэвіч. Гэта рэвалюцыйныя паэты.

Па меры таго як Купала падрастаў, ён вучыўся ў Пецярбурзе на агульнаадукацыйных курсах.

Калі Колас быў рэалістам, то Купала рамантыстам.

Купала ў гэтым вершы хоча знайсці выйсце ў сферы этапічных ідыалаў, ён паказвае, што ты на гэта жыццё глядзіш дзіка, але твой дух будзе мчацца к зорам.

Агульны настрой верша мажорны. Аўтар расказвае аб тым, як нялёгка здабываецца селянінам кавалак хлеба.

Гусляр аддае жыццё для развіцця мастацтва.

Паэма «Курган» пачынаецца словамі: «Паміж пяскоў егіпецкай зямлі...»

У паэме «Магіла льва» паказаны бандзіт.

Машэка ідзе ў лес, сустракае людзей і рэжа іх.

Машэка — гэта дзеяч старажытнай літаратуры.

Русалкі ў «Сне на кургане» ўвасабляюць сабой царызм.

Купала верыць, што настане час, калі каханне будзе сапраўды шчаслівым. У той час паэт не мог даць канкрэтны адказ на гэтае пытанне, і толькі Кастрычнік падказаў правільнае рашэнне.

Так як Купала народны пісьменнік, то і яго творы павінны быць народнымі.

Паўлінка ўвасабляе сабой фальклорную скарбніцу.

Ролю Паўлінкі выконвала Паліна Мядзельская.

Ролю Паўлінкі выконвала Паўліна Медзічы.

Канчатак «Паўлінкі» змяніўся, калі тэатр паехаў у акупацыю.

Перарабіў канец п'есы «Паўлінка» пастаноўшчык Лужанін.

У галаве кожнага чалавека пры чытанні любога твора адбываюцца ўзбліскі — рэакцыя на ўсё лепшае, яркае, якое ёсць у творы. Не скажу, каб творы Я. Купалы былі перанасычаны гэтымі ўзбліскамі, але ў яго ёсць такія сачыненні, якія без ніякага прыпынку трэба ўключыць у скарбніцу сусветнай літаратуры.

У свае апавяданні Я. Колас ужыўляе каларыт.

Герой прызнаецца, што пастуліў дрэнна з дубам.

Перад рэвалюцыяй Колас эмігрыраваў у Маскву, дзе працаваў у школе ў вёсцы.

Дзед Курыла памёр. Далей аўтар вывеў героя на шырокі прастор жыцця, правёў цярністымі шляхамі суровых выпрабаванняў, сутыкнуў з людзьмі розных станаў і розных уяўленняў аб мэце жыцця.

●

Багдановіч быў рознабаковым пісьменнікам: пісаў і да кахання, і да радзімы.

Пачынаецца раздзел «У зачарованым царстве» вершамі «Возера», «Над возерам», дзе Багдановіч апісвае насякомых.

М. Багдановіч паказвае жыццё мушак.

Мадонна — гэта вобраз жанчыны, якую ён стварыў для сябе і шукаў усё жыццё.

●

М. Гарэцкі паказвае, да чаго даводзяць чалавека перажыванні, гуманізм.

Гарэцкі прыязджае ў армію і бачыць, якая дрэнная царская армія.

Дзелавыя запісы пісьменнік ажыўляў каларыйна-бытавой лексікай.

●

Ядвігін Ш. стаяў ля вытокаў тае вялікай ракі, якая імклівым патокам панеслася ўгару насуперак законаў фізікі.

Ц. Гартны быў дэпутатам ад Беларусі ў Вярхоўным Савеце РСФСР.

К. Буйло была намесніцай кнігадрукарні ў Полацку.

Пісьменнік Ядвігін Трэці (Ядвігін Ш.).

●

Знікае стары, звыклы ўклад жыцця, павышаецца культурны ўзровень жыхароў вёскі, і туды пранікаюць рэшткі навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Вялікая заслуга Анатоля Вялюгіна ў тым, што ён стварыў, у адрозненне ад іншых, вобраз Леніна ў сувязі з вобразам Волгі. Вялюгін сумеў тонка падмеціць тое, што можа ўбачыць не кожны. Ён адзін заўважыў, што вецер, які ломіць крыгі, дзьме не адкуль-небудзь, а менавіта з Волгі.

Сучасная лірыка — гэта другі паверх старадаўніх народных песень.

Менавіта з гэтай скарбніцы невычэрпнай лірыкі і смутку, радасці і журбы чэрпае паэтычны сок маладая паэтэса.

Слова ў Лісіцына не «віляе хвастом», не рагоча, не пішчыць, заціснутае паміж сабратамі. Яму вольна і светла ў радку.

Пісьменнік не выходзіць з даўгоў, і гэта вельмі ўздзейнічае на яго душэўную цішыню.

**Падрыхтавала да друку**
**Люба ТАРАСЮК.**

Без слоў.

Мал. А. НАВІЧЭНКІ.

## На блакітным экране

**З 17 ПА 23 СНЕЖНЯ**

**18 снежня. 22.55**

**ЛІРА**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

**21 снежня. 19.25**

**ГАВОРЫМ ПА-БЕЛАРУСКУ**

Урокі А. М. Белакоза.

**22 снежня. 12.05**

**«ЗГАДАЕМ ТЫХ, КАГО ШАНУЕ ПАМЯЦЬ»**

Фотаздымак Ластоўскага... захаваўся.

Гісторыя пошукаў фотаздымка Вацлава Ластоўскага ў бібліятэцы Саратаўскага універсітэта. Удзельнікі праграмы — дырэктар бібліятэкі В. А. Арцісевіч, загадчык аддзела рэдкай кнігі Н. А. Папкова.

**22 снежня. 16.20**

**БЕССМЯРОТНАСЦЬ — ГЭТА РЭАЛЬНА?**

Кінанарыс пра жыццё і навуковыя пошукі Б. Болатава — акадэміка АН РСФСР, які займаецца праблемамі ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі.

**22 снежня. 16.50**

**СУСТРЭЧА ДЛЯ ВАС**

Юбілейны 50-ы выпуск.

Нашы госці — удзельнікі мінулых перадач. Прамая лінія.

**23 снежня. 10.35**

**І. ЧЫГРЫНАЎ. «ЧАЛАВЕК З МЯДЗВЕДЖЫМ ТВАРАМ»**

Тэлевізійны спектакль. Рэжысёр В. Акімушкін. У ролях: Г. Гарбук, А. Ткачонак.

**23 снежня. 12.15**

**АДРАДЖЭННЕ**

Культурна-асветніцкая праграма. Расказ пра святкаванне 500-годдзя Ф. Скарыны ў Вільнюсе.

**23 снежня. 19.35**

**АДПЛАТА КРАДЗЯЖОМ**

Відэададатак да тэлечасопіса «У жывапісе, графіцы, скульптуры».

**23 снежня. 21.40**

**СВЯТА СКАРЫНЫ У МАСКВЕ**

Урачысты сход і святочны канцэрт, прысвечаныя 500-годдзю Ф. Скарыны. Запіс па трансляцыі з Калоннай залы Дома Саюзаў.




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.